*Не пакідайце ж мовы нашай беларускай, каб не ўмёрлі!*
***ФРАНЦІШАК БАГУШЭВІЧ***



# наша слова




**Газета выходзіць з сакавіка 1990 года** № 27 (614) 23 ЛІПЕНЯ 2003 г.

## 25 ліпеня -- 10 гадоў з дня ўстаноўкі ў Лідзе помніка беларускаму першадрукару Францішку Скарыну



### *Перад помнікам Скарыну ў Лідзе*

Ты доўга блукаў па стагоддзях і свеце,
Пакуль не спыніўся на Лідскай зямлі,
Дзе кнігі Твае, наймілейшыя дзеці,
У душах удзячных прызнанне знайшлі:

Ты доўга хадзіў за мяжой і за часам,
Апостал і геній народу свайго,
І з думкай сваёй заставаўся сам-насам,
Не могшы дабіцца да сэрца яго.

Пяць соцень гадоў Ты ўжо ведаў пра тое,
Пра што мы сягоння талкуем ізноў,
Ты, быўшы народжаным гэтай зямлёю,
Быў сынам тутэйшых і песень, і слоў.

Ты слова паставіў паперадзе думкі.
Бо ведаў, што "Слова спачатку было",
Ты праўды адвечныя ў словаў карункі
Аздобіў і Слова па свеце пайшло.

Бо што значыць думка ў халоднай латыні,
Ці ў грэцкай там мове, ці ў іншай якой?
Ды гэта, як фінік, у нашай краіне,
Ўзысці не паспее, як змерзне зімой.

Тут трэба кідаць тое зернейка ў глебу,
Што выстаіць год аж да жніва свайго,
І Ты для народа духоўнага хлеба
Прынёс той акрайчык на мове яго.

І быў Твой народ і багатым, і слаўным,
Вялікім і мудрым народ гэты быў
Датуль, аж пакуль ён увішна і спраўна
Адзіную мову сваю бараніў.

А мову пакінуў, дык мудрасць разводдзем
Сцякла паплавамі ў чужыя краі,
І кожны брахлівы хапуга і злодзей
Зноў дурыць, як можа, нашчадкаў Тваіх.

Стаіш тут у Лідзе, і дзякаваць Богу,
А міма штодзень сотні, тысячы йдуць,
Яны ад Цябе, як ад бацькі парога,
Дрыготкую памяць пра вечнасць нясуць.

У вочы Твае заглядаюцца людзі,
І кожны, хто зможа Твой погляд адчуць,
Тут жа згадае, што ён – не прыблуда,
Што ён – беларус, і што тут – Беларусь.

***Станіслаў Суднік, 1998 г.***

# Рыгору Кобецу- 105



24 ліпеня спаўняецца 105 гадоў з дня нараджэння аднаго з буйнейшых дзеячоў беларускай культуры, тэатральнага драматурга і кінасцэнарыста Рыгора Кобеца. Ён – першы беларускі пісьменнік, які атрымаў званне заслужанага дзеяча мастацтваў Беларусі (1935) за станаўленне і развіццё нацыянальнага кінамастацтва. Першы беларускі драматург, чыя п'еса ставілася за мяжой ("Гута", 1931). Першы прафесійны кінасцэнарыст, аўтар сцэнара першага гукавога і першага беларускамоўнага фільма "Двойчы народжаны" (1933, сёлета яму 70 год), у якім створаны яркі характар беларускага селяніна.

Яго п'еса "Гута" ў пастаноўцы БДТ-1 (тэатр імя Я. Купалы) атрымала першую прэмію на першай усесаюзнай алімпіядзе. Яму належыць сцэнар першага мастацкага фільма аб ролі друку ў будаўніцтве Беларусі ("Ураган", 1931), сцэнар знакамітай кінакамедыі "Шукальнікі шчасця", якая абляцела ўвесь свет, кінасцэнар "Дняпро ў агні" (1937).

Рыгор Кобец шмат у чым быў першым, таму што стаяў ля вытокаў беларускай культуры. Ён і яго калегі таго часу былі першаадкрывальнікамі, бо пачыналася новая эра. Часы мяняюцца, на змену старому прыходзіць новае, але тое, што зроблена таленавіта, не паддаецца ніякаму знішчэнню, бо імі, піянерамі, закладзены моцны падмурак, на якім трымаецца мастацтва сучаснае.

Не ўсе свае сцэнары паспеў рэалізаваць Рыгор Якаўлевіч ("Паўстанне гневу", "Героі Балтыкі" і інш.) з прычыны паліт-рэпрэсій, якія не абмінулі і яго (1938-1960), але тое, што ён паспеў зрабіць, назаўсёды застанецца ў гісторыі беларускай культуры, нягледзячы на тое, што і сёння, як у рэпрэсіўныя гады і ў часы застойныя, робяцца спробы знішчыць яго творы, або скажаць іх сюжэт, ідэю ў пераказах мастацтвазнаўцаў, а заслугі драматурга прыпісваюцца іншым.

Не адно пакаленне выхоўвалася на творах тых, хто пачынаў, хто ствараў яскравыя "няўміручыя" вобразы.

*На 8-й старонцы газеты мы друкуем ўспамін вядомага старэйшага беларускага паэта Міхася Пянкрата, прыхільніка таленту Кобеца.*

**В. а. Прэм'ер-міністра Рэспублікі Беларусь Сідорскаму С. С.**
**копія: Міністру адукацыі Рэспублікі Беларусь Брыгадзіну П. І.**
**Старшыні Камітэта па адукацыі Менгарвыканкама Ціцянкову М. С.**

Мы, бацькі навучэнцаў Нацыянальнага дзяржаўнага гуманітарнага ліцэя імя Якуба Коласа, якія ніжэй падпісаліся, у сувязі з прыняццём пастановы Савета Міністраў Рэспублікі Беларусь ад 25 чэрвеня 2003 г. № 850 "Аб ліквідацыі Нацыянальнага дзяржаўнага гуманітарнага ліцэя імя Якуба Коласа" заяўляем наступнае:

1. Вышэй згаданая пастанова прынята без абгрунтаваных прычын і парушае дзейнае заканадаўства аб правах бацькоў і дзяцей выбіраць мову навучання і навучальную ўстанову, а менавіта артыкулы 49, 50 Канстытуцыі Рэспублікі Беларусь і 51 Закона Рэспублікі Беларусь "Аб адукацыі ў Рэспубліцы Беларусь", якія гарантуюць даступнасць і бясплатнасць агульнай сярэдняй адукацыі, даюць права выбару для нашых дзяцей установы адукацыі і мовы навучання; артыкул 13 Міжнароднага пакту "Аб эканамічных, сацыяльных і культурных правах" ААН, артыкулы 2,3 і 30 Канвенцыі ААН "Аб правах дзіцяці". Паводле канвенцыі ААН "Аб барацьбе з дыскрымінацыяй у галіне адукацыі" ад 14.12.1960 ліквідацыю Ліцэя мы расцэньваем, як дыскрымінацыю па моўнай і нацыянальнай прыкметах у галіне адукацыі.

2. Нашы дзеці паступілі ў НДГЛ імя Якуба Коласа, вытрымаўшы конкурс, і 1 верасня 2003 года мы аддамо іх толькі ў Нацыянальный дзяржаўный гуманітарный ліцэй імя Якуба Коласа, каб навучацца толькі на роднай беларускай мове, толькі ў сваіх настаўнікаў начале з Уладзімірам Коласам, якія засведчылі свае найвышэйшыя прафесійныя і маральныя якасці

Перад прадстаўнікамі настаўніцкага калектыву і бацькоўскага сходу міністр адукацыі П. І. Брыгадзін, намеснік адукацыі К. С. Фарына, кіраўнік упраўлення сярэдняй і пачатковай адукацыі У. К. Шчэрба, старшыня Камітэта па адукацыі Менгарвыканкаму М. С. Ціцянкоў, яго намеснік А. В. Воранаў неаднаразова абяцалі, што 1 верасня нашы дзеці будуць вучыцца на беларускай мове ў гэтых настаўнікаў і ў гэтым будынку.

Няўжо чыноўнікі, што займаюць такія адказныя пасады, здольныя хлусіць, гледзячы ў вочы дзецям, іхнім бацькам і настаўнікам ліцэя? Паабяцалі, дык выконвайце.

Мы патрабуем адмяніць пастанову Савета Міністраў Рэспублікі Беларусь ад 25 чэрвеня 2003 г. № 850 каб захаваць:

- калектыў педагогаў і навучэнцаў ліцэя;
- яго беларускамоўны статус;
- унікальныя навучальныя праграмы;
- будынак па вуліцы Кірава 21.

Нашы дзеці ні ў якую іншую навучальную ўстанову і ні да якіх іншых настаўнікаў у наступным навучальным годзе не пойдуць, а ўся адказнасць за гэта ўскладаецца на Вас.

**Бацькі навучэнцаў Нацыянальнага дзяржаўнага ліцэя імя Якуба Коласа** *(подпісы бацькоў на 4-х аркушах у колькасці 97 прыкладаюцца).*

***14 ліпеня 2003 года.***

# Што табе дае беларуская мова?

*(Працяг. Пачатак у папярэднім нумары.)*

***Ігар, бухгалтар***

Ад самага пачатку, колькі сябе памятаю, я чуў родную беларускую мову, таму праблемы з ёю ніколі не меў. А што яна дае мне?

Пачну з таго, што я тут вырас, яна – часцінка маёй душы, памяць пра маіх бабуль і дзядуль. Для мяне неразрыўная любоў да мовы і любоў да Радзімы. Аднак, часам, па вуліцах Менска бывае такое адчуванне, што некуды з Беларусі з'ехаў. З людзьмі ж, якія размаўляюць з табой па-беларуску, пачынаеш адчуваць у сабе чалавека, які не адзін на гэтай зямлі. З'яўляецца адчуванне, што варта жыць і для некага штосьці добрае рабіць.

Да таго ж – гэта вельмі пекная мова, вельмі добрыя і прыгожыя людзі на ёй размаўляюць.

***Людміла, спецыялістка па арганізацыі прамысловых выставаў***

На жаль, значную частку свайго жыцця не карысталася беларускай мовай - вырасла ў такім асяродку. Вывучыла мову ўжо пасля 40 гадоў.

Што яна мне дала? Напэўна, пачуццё самаўсведамлення, нейкай такой больш поўнай вартаснасці асобы. Нас выхоўвалі як савецкіх людзей, асобаў без нацыянальнасці. Або, як я разумею зараз, гэтакіх "рускіх людзей" - пад прыкрыццём так званага інтэрнацыяналізму. Але калі чалавек усведамляе, якому народу ён належыць, то ён цікавіцца сваім родам, каранямі, гісторыяй свайго народа, традыцыямі, культурай, робіцца неабыякавым да будучыні. Я адчула сябе беларускай. А пачуццё ўсведамлення сваёй нацыянальнасці мае глыбокія карані. Пачынаеш адчуваць сувязі з мінулым і будучым. І нават сваю будучыню ты ўжо не ўспрымаеш, як будучыню толькі асабістую, ці толькі сваёй сям'і, а ўжо - як будучыню ўсяго народа. Я думаю, што гэта вельмі важнае пачуццё. Знутры становішся нібы іншым чалавекам. Веданне мовы мяняе ўсё ў жыцці: і кола знаёмых, і інтарэсы, і погляды на падзеі - сённяшнія і ў гісторыі. Я стала цікавіцца беларускімі традыцыямі, песнямі - стала іх вучыць, спяваць. Ніколі такога раней не рабіла! Стала ствараць невялічкія вершы, хаця ў дзяцінстве я зусім не любіла пісаць, ненавідзела гэтыя сачыненні. Але цяпер мне гэта прыносіць задавальненне. Я адчула мілагучнасць, прыгажосць нашае мовы і лічу яе адной з самых прыгожых моваў сярод тых, што я ведаю або чула. І гэта не перашкаджае мне разумець, што на сёння трэба ведаць шмат моваў. Беларускай ды рускай абсалютна недастаткова сённяшняму чалавеку. Гэтае веданне мяняе чалавека, ён разумее, што свет вялікі, што ўсе мовы прыгожыя і патрэбныя.

На жаль, у сённяшнім нашым грамадстве карыстанне роднай беларускай мовай прыносіць пэўныя праблемы. Сёння яшчэ грамадства нашае ў асноўным рускамоўнае. Ёсць праблемы на працы і ў сям'і, часам, са старымі знаёмымі, калі яны не разумеюць тваіх прыхільнасцяў. Бывае, што нават "страчваеш" гэтых сваіх знаёмых.

Але, пэўна, самае галоўнае, што мне дала беларуская мова – гэта тое, што я, авалодаўшы ёю, адчуваю сябе больш шчаслівым чалавекам. Яна мне дала новы асяродак знаёмых, якіх я вельмі люблю, вельмі паважаю, без якіх я зараз ужо не ўяўляю свайго жыцця. І я думаю, што гэта тая падзяка Мовы мне за тое, што я ўсё-такі, нягледзячы на ўсе цяжкасці (бо я зусім яе не ведала) прыйшла да свайго, роднага. Я лічу сябе зараз даволі шчаслівым чалавекам, дзякуючы гаму, што авалодала сваёй роднай мовай.

Пэўна, беларусы не стануць годнай нацыяй, пакуль не зразумеюць, што ўсе яны павінны ведаць сваю мову, ганарыцца ёю, любіць яе. Толькі так мы станем народам паважаным і роўным з іншымі.

***Барыс, энергетык***

У сям'і маіх бацькоў размаўлялі па-расейску. Аднак тата патрабаваў, каб кнігі беларускіх пісьменнікаў я чытаў на роднай беларускай мове. І першая кніга, якая захапіла і была да сэрца – гэта "Міколка-паравоз" Міхася Лынькова. Пасля я гэтую кнігу чытаў перад сном уласным дзецям – за добрыя паводзіны, замест іншых узнагарод – цацак ці ласункаў. Старэйшы сын прачытаў гэтую кніжку на беларускай мове яшчэ да таго, як пачаў вывучаць яе ў школе (вучыўся ён у школе імя Якуба Коласа, але беларуская мова там была не ў вялікай пашане, а пры цяперашняй уладзе і імя пісьменніка знікла з шыльды).

Беларуская мова добра дапамагла мне падчас майго службовага камандавання ў Македонію. Авалодаць македонскаю мовай мне было значна лягчэй, чым тым, хто ведаў толькі мову расійскую.

Веданне мовы пашырала кола маіх сяброў. Маё зацікаўленне беларускай гісторыяй і літаратурай выклікала да мяне прыхільнасць таксам людзей зацікаўленых беларушчынай. Беларуская мова для мяне як знак, які дапамагае знайсці цікавых для мяне людзей.

***Вольга, бібліятэкарка***

Да беларускай мовы я прыйшла з вялікай цяжкасцю. У школе яе не вывучала – бацькі напісалі заяву, каб мяне ад гэтага прадмета вызвалілі. Універсітэт культуры я скончыла ў 1981 годзе, беларуская мова была там далёка не на першым месцы. Не карысталася ёю і на працы ў бібліятэцы - ні з супрацоўнікамі, ні з чытачамі. І толькі ў канцы 1980-х, калі пачалося беларускае адраджэнне, паўстала пытанне нашага дзяржаўнага суверэнітэту, мова загучала і ў сценах нашай бібліятэкі. Здавалі экзамены на веданне мовы, шкода, што потым гэта заціхла. Шмат даў мне ўдзел у дзейнасці моладзевага аб'яднання "Талака" – правядзенне культурных мерапрыемстваў, фальклорных святаў. Гэта ж прывяло мяне да ўдзелу ў палітычным жыцці, я была сярод першых сяброў Народнага Фронту, тых, хто ладзіў Першы з'езд у Вільні. Знаёмства з выдатнымі гісторыкамі -Міхасём Ткачовым, Міколам Ермаловічам, удзел у разнастайных культурніцкіх імпрэзах, шматлікія вандроўкі па Беларусі, яе гістарычных і літаратурных мясцінах. Усё гэта дало мне адчуванне сябе асобай, сапраўднай грамадзянкай сваёй краіны, якая мае тысячагадовую гісторыю.

Імкнуся карыстацца беларускаю мовай паўсюдна: і на вуліцы, і ў праваслаўнай царкве – на беларускамоўных набажэнствах у Святапетрапаўлаўскім саборы ў Менску.

***Уладзя з Мормаля, літаратар, даследчык***

Што дае мне родная мова? Найперш гармонію з самім сабою, з сваімі продкамі, з усёй нашай тысячагадовай гісторыяй. У роднай мове я пачуваю сябе натуральна, як дзіця пачувае сябе ва ўлонні маці. У роднай мове я – творца, у ёй мне зразумелыя ўсе пласты, усе нюансы. У роднай мове мае дыханне, у роднай мове мая артыкуляцыя. Без роднай мовы, як сказаў Францішак Багушэвіч, я нямы, калека. З гэтым цяжка не пагадзіцца.

Родная мова для мяне – асалода. Так, яна мне дае такую асалоду, якую дае лагодная музыка. Родная мова – гэта яшчэ і лакмусавая паперка, якая давала і дае мне мажлівасць высвятляць праўдзівае нутро чалавека. Праз родную мову я пазнаю гэтае нутро. Родная мова гэта мая самабытнасць, незалежнасць. Незалежнасць перад усімі і ўсім светам. Родная мова – гэта мая рэлігія, і калі святарства не прызнае маёй мовы, я ў супярэчнасці з такімі святарамі і з такім набажэнствам.

Родная мова – інструмент маёй душы. Не можа быць беларуса без роднай мовы! Без роднай песні чалавек становіцца чужаком і глушцом. Жыць у чужамоўі – гэта значыць страціць усё сваё і прыняць усё чужое. Неяк аднаго разу, разважаючы, што ёсць рускае, што ёсць беларускае, адзін вядомы метадыст і педагог Яўген Лаўрэль (аўтар шматлікіх падручнікаў) зазначыў: "А ці заўважыў ты, Уладзя, што беларусы, не раўнуючыся з рускімі, пра усё сваё кажуць – наша поле, наша ніва, наша світка, наша мова, наша гора, наша зіма, наш край, нашы песні. Расейцы ж, кажучы пра гэтыя ды іншыя з'явы, называюць іх рускім: рускія шашкі, рускія шахматы, рускі чай, рускі лес, "русский вопрос", рускі мароз, руская зіма. Шчыра кажучы, тое, што ў расейцаў наўмысна падкрэслена называецца шмат чаго рускім, я заўважаў даўно. А вось, што беларусы шмат якія нацыянальныя паняцці імкнуцца перадаць праз словы "наш," "наша". З гэтай нагоды згадаем таго ж Янку Лучыну. У ягоным вершы "Родная старонка" маем не толькі "нашу долю" і "нашу ніву", але яшчэ і "нашы світкі", якія мы цэнім, бо яны, хоць і старыя, але нашыя. Здавалася б, непрыкметнае, сціплае назіранне, але яно гаворыць, якія розныя менталітэты ў суседніх, хоць і родных, народаў. Там – усё рускае, а ў нас – усё наша, у нас і каша – наша!

Яшчэ от што хачу дадаць. Наша мова ў падполлі. Часам дапякаюць: на беларускай мове ніхто не гаворыць, яе не пачуеш на вуліцы. Такое нядаўна выказаў мне адзін незычлівец – лічыў, што гэтай сваёй заявай ён скасаваў мяне дарэшты, што мне няма чым пакрыць ягонае нахабства. Але Бог мяне абараніў, паслаўшы мне на гэты гнюс светлую думку. "Гэта праўда, - сказаў я, - на вуліцах рэдка пачуеш роднае беларускае слова. Але ведаеце, чаму? Яно пазбаўлена волі. Дайце яму волю – усюды, скрозь дайце яму дыхнуць на поўныя грудзі, і беларус перастане хавацца з роднай мовай. А калі яе кожнага дня крыўляць, бэсціць, біць за яе дубінкамі, цягаць у пастарункі, то не кожны (як гэта ёсць зараз) адважыцца ўсюды і скрозь трымацца роднага слова".

***Галіна, бухгалтарка.***

Мне не трэба было прыходзіць да беларускай мовы – я з ёю нарадзілася, дзесяць класаў скончыла з мовай беларускай. Праблемы ўзніклі, калі трэба было далей ісці вучыцца. Як прыехала ў Горкі здаваць уступныя экзамены, то ўбачыла пытанні ў білетах на расейскай мове. Але я не стала нічога перакладаць для экзаменацыйнай камісіі, а так і шпарыла па-беларуску. Ды мяне ніхто не спыняў, і ставілі мне ўсё – "хорошо"...

Выкладаць жа пасля бухгалтарскі ўлік у тэхнікуме даводзілася ўжо па-расейску і трэба было старацца, каб чыста гаварыць, без акцэнту. Перараблялі нас, беларусаў, на рускіх – такое было жыццё гады... І амаль перарабілі. Толькі ў 1990-ых гадах я вярнулася да роднай мовы. Сталі пісаць пра гісторыю: адкуль мы, хто мы, адкуль наш род, якая ў нас была дзяржава. А то нам убівалі ў галовы, што мы – тыя ж расіяне.

Цяпер я пастаянна карыстаюся ў сваім жыцці роднай мовай, не аглядаючыся на тое, падабаецца гэта каму, ці не. І адмоўную рэакцыю на сваю гаворку сустракаю вельмі рэдка.

Я веру ў Бога. Але мне не падабалася служба ў праваслаўнай царкве, бо нават не заўсёды ўсё разумела. Стала хадзіць на службы ў касцёл, і выглядала той расклад, калі яны вяліся па-беларуску. А цяпер я знайшла сваю ўніяцкую царкву, дзе не гучыць ніводнага чужога слова. А калі кажуць пра Бацькаўшчыну, пра Беларусь, то няможна стрымаць слёз, асабліва, калі запяюць "Магутны Божа"

У сваім беларускамоўным асяроддзі я адчуваю сябе годным чалавекам, тут я магу выказаць усё, пра што думаю, што мяне хвалюе. Што ў мяне на душы.

Вось што мне дае беларуская мова!

***Тамара, працуе ў навучальнай установе***

Паколькі я нарадзілася ў Расіі, то ў дзяцінстве не валодала беларускай мовай (бацькі родам з Беларусі, з часам вярнуліся сюды)...

Вучыць мову пачала толькі ў школе. Настаўнік беларускай мовы быў вельмі цікавы чалавек, ён вучыў нас не толькі правілам арфаграфіі, ён вучыў нас любіць нашу мову. З таго часу я і палюбіла яе. Але ж гэта былі часы русіфікацыі...

Цяжка выказаць словамі, што мне дала беларуская мова... Бо гэта толькі эмоцыі. Я проста адчула сваю адметнасць, адрозненне ад іншых – калі мне падабалася слухаць народныя спевы, нашу мову, якая выклікала гармонію ў душы, была больш да сэрца, даспадобы, нашыя родныя, такія натуральныя гукі... Не ведаю чаму, але я пачала вучыць нашай мове дачку ў тыя часы, калі ў Менску беларускай мовы было амаль не чуваць. Я пачала купляць для дачкі беларускія кніжкі. Мне так хацелася паказаць мілагучнасць нашай мовы! Я і сама пачала вучыць яе, удасканальваць свае веды, калі пайшла гаворка, што могуць зрабіць беларускую мову дзяржаўнай. Мяне гэта вельмі ўзрушыла – я ж, думаю, недастаткова валодаю ёю, хоць і люблю яе. Я пачала выпісваць беларускія газеты, часопісы, пачала чытаць беларускіх пісьменнікаў, галоўным чынам, тых, якіх мы не праходзілі "па праграме" – і я адчула зусім іншы погляд на свет. Я адчула, што думкі, якія неслі беларускія аўтары ў сваім сэрцы – гэта зусім не тое, што я чытала ў рускай літаратуры!

У сённяшнім жыцці, канешне, беларуская мова выклікае пэўныя праблемы. Бо іншым разам так, сапраўды, ва ўстанове "трэба ўсё па-руску"... Бывае, калі я напішу які дакумент па-беларуску – дзівяцца, не разумеюць: " А чаму вы так пішаце"? А таму, што я магу і хачу пісаць у сваёй краіне па-беларуску!

Хаця наша навучальная ўстанова працуе на рускай мове, але як і ўсюды ў Беларусі, тая мова больш падобная на трасянку. Калі ж чуеш ад студэнта ці выкладчыка беларускае слова, то пачынаеш міжволі думаць, што гэта нашыя людзі. Тады сам сабою наладжваецца кантакт паміж малазнаёмымі людзьмі, з'яўляецца адкрытасць у адносінах, што выклікае станоўчыя эмоцыі. Беларуская мова – наша мова, таму лёгка знаходзіць з яе дапамогай сяброў.

Дык што мне дала беларуская мова? Толькі эмоцыі. Толькі любоў і іншы погляд на наш свет.

*(Працяг у наступных нумарах.)*





# ЛІДА - ГОРАД СКАРЫНЫ

*Будзем думаць, вучыцца тварыць*
*Так, як ты, у сваёй мове, Скарына.*
*Ларыса Геніюш.*

На ажыўленым месцы горада Ліды, паблізу фарнага касцёла ў скверы па вуліцы Савецкай, узвышаецца бронзавая фігура Францішка Скарыны – вялікага гуманіста, першадрукара, мастака-графіка, пісьменніка, вучонага энцыклапедыста, беларускага асветніка і выдатнага дзеяча культуры эпохі Адраджэння. Мудра і проста вырашана мастакоўская задума: паказаць сапраўднага Скарыну, сына зямлі беларускай. Поза першадрукара – постаць у рост. Адзенне яго, дарэчы, як увесь помнік, у рэнесансавым стылі. Што датычыцца знешняга аблічча Ф. Скарыны, то таленавіты беларускі скульптар Валеры Янушкевіч захаваў у гэтым вобразе падабенства з вядомай распаўсюджанай гравюрай. Скульптура размешчана на шырокім пастаменце, выкананым з граніту. Добраўпарадкаванне навакольнай тэрыторыі каля помніка, архітэктурнае аздабленне, устаноўку манумента за кошт грашовых сродкаў Лідскага гарвыканкама выканала малое прадпрыемства "Дызайн" (кіраўнік і мастак Рычард Груша).

Вось ён, Францішак Скарына, велічны, спакойны, з надзеяй і спадзяваннем у вачах, пазірае на нас і нібы гаворыць: "Бярыце і чытайце" Скарына вярнуўся ў Ліду, вярнуўся на Беларусь, як некалі неадольна вяртаўся на радзімую зямлю, каб падараваць людзям шчасце асветы. Вучоныя маюць рацыю, калі сцвярджаюць на падставе дакументаў, што шлях зносін паміж Кракавым і Вільняю да канца XУІ стагоддзя ляжаў праз Ліду-Слонім-Берасце.

Значыць, Ф. Скарына ехаў вучыцца з Полацка ў Кракаў праз наш горад, а таксама вяртаўся з Прагі і Кракава ў Вільню старадаўнім гасцінцам праз Ліду. І гэта вельмі важна, што помнік Ф. Скарыну ў Лідзе адкрыўся фактычна на беларускай частцы Віленшчыны, дзе Ліда заўсёды была значным культурным і эканамічным цэнтрам. Менавіта на гэтай зямлі ў старадаўняй Вільні, у доме "найвышшага" бурмістра Якуба Бабіча, у 1522 годзе ўбачыла свет "Малая падарожная кніжка" – зборнік рэлігійных і свецкіх твораў ад "Псалтыра" да "Саборніка", першая друкаваная кніга на сучаснай тэрыторыі Беларусі, Украіны і Расіі.

Мы ганарымся, што Францішак Скарына быў у нашым горадзе, бачыў старажытны замак, сустракаўся з лідзянамі... і таму ў канцы 1989 года Лідская гарадская рада Таварыства беларускай мовы імя Ф. Скарыны выступіла з прапановаю ўстанавіць у Лідзе помнік знакамітаму Беларусу, які з'яўляецца гонарам нашай нацыі, нашай дзяржавы. Была распачата высакародная акцыя па збору сродкаў на збудаванне помніка. Неабходна адзначыць упартыя намаганні ў гэтым кірунку сяброў гарадской рады ТБМ Марыі Саўкевіч, Марыі Ганчар і іншых. На адмысловы разліковы рахунак у банку пералічвалі грашовыя сродкі амаль усе першасныя суполкі ТБМ школ, сярэдніх спецыяльных навучальных устаноў, дзіцячых садкоў, а таксама грамадскія арганізацыі; (гаркам партыі і гаркам камсамолу), малыя прадпрыемствы ("Каскад" і інш), дзяржаўныя прадпрыемствы (абутковая фабрыка, завод "Оптык", аб'яднанне жыллёва-камунальнай гаспадаркі), многія простыя грамадзяне.

Таксама ў Менскі скульптурны мацтака-вытворчы камбінат, дзе вырабляўся помнік, вялікія грошы па тых часах пералічылі Міністэрства фінансаў Рэспублікі Беларусь, Гарадзенскі аблвыканкам і Лідскі гарвыканкам.

Неабходна заўважыць, што адметнае ў ініцыятыве стварэння помніка першадрукару – масавасць, шырокая падтрымка грамадскасці, а пасля – і ўладных структур. Усе стараліся ўкласці свой рубель у высакародную задуму. Але напачатку колькі было горкіх



Міхась Мельнік

неспадзяванак! І, як у нас заведзена, часта натыкаліся на чыноўніцка-бюракратычныя бар'еры. Не ўсе адразу ўспрынялі прапанову, была нават на працягу трох гадоў цэлая дыскусія на старонках лідскай аб'яднанай газеты. Многія пісалі: навошта нам гэтыя помнікі: навошта ўвогуле культура, трэба каўбасы і сала. Прыкра было такое чытаць...

Народныя, кроўныя рублі абясцэньваліся, а стос дакументаў – перапіскі станавіўся ўсё больш важкім. Ды што казаць, не толькі газета "Советская Белоруссия", але і Міністэрства культуры выступілі супраць будаўніцтва помніка Ф. Скарыну ў Лідзе, бо, маўляў, першадрукар не меў адносін да гэтага горада... Дык няўжо большыя адносіны меў Ф. Энгельс, чыя асоба ўвекавечана ажно ў адной доўгай вуліцы і чатырох завулках? І народ усё – такі нас падтрымаў... Малады менскі скульптар Валеры Янушкевіч з гонрам выканаў замову лідзян.

25 ліпеня 1993 года. Нядзеля... Такога свяга старажытная Ліда, мабыць, не ведала за ўсю сваю шматгадовую гісторыю. Урачыстасці былі прысвечаны Дню незалежнасці Рэспублікі Беларусь і адкрыццю помніка Францішку Скарыну. Гэта гістарычная падзея вызначалася сваім яскравым нацыянальным зместам, адметным і выразным беларускім духам. Гэтай знамянальнай падзеі былі прысвечаны і Міжнародныя гістарычна-краязнаўчыя чытанні ў Лідзе, якія адбыліся 24-26 ліпеня 1993 года, арганізаваныя Гарадзенскай краязнаўчай асацыяцыяй, Гарадзенскім аддзяленнем Беларускага фонду культуры, Гарадзенскім абласным саветам Таварыства аховы помнікаў гісторыі і культуры, Лідскім гарвыканкамам і Лідскай гарадской радай Таварыства беларускай мовы імя Ф. Скарыны. Дзейнасць і жыццё Ф. Скарыны сталі тэмай асаблівай увагі, а многія факты і ідэі скарыназнаўства ўпершыню ўведзены ў навуковы зварот. Перад прысутнымі выступілі вядомыя навукоўцы з Масквы і Менска, Вільні і Горадні, мясцовыя краязнаўцы.

Па пэўных прычынах, праўда, не прыбылі ў Ліду, як чакалася, нашчадак вялікага асветніка С. Скарына з Манрэаля, А. Мальдзіс з Менска, Ю. Туронак з Варшавы, Ю. Лабынцаў з Масквы. Аднак іх рэфераты былі зачытаны на гэтай змястоўнай і запамінальнай сустрэчы. Вельмі цікавымі былі выступленні А. Нарбута і Н. Нарбута (г. Масква), В. Рамука (Чыкага, ЗША), В. Чарапіцы, А. Майсяёнка, А. Краўцэвіча, В. Шведа, Ф. Ігнатовіча, Л. Шагуна (усе з Горадні), І. Панцюка, Т. Разуменка, І. Сосны, Л. Кулажанкі, М. Чарняўскага, У. Васілевіча (усе з Менска), А. Чэмера (г. Вільня) і іншых, а таксама мясцовых краязнаўцаў А. Жалкоўскага, В. Сліўкіна, А. Куляша, М. Булая, У. Лагаша.

Яшчэ напярэдадні гараджане з сумам паглядалі на хмурнае неба, адкуль некалькі дзён запар ліў дождж. Але 25 ліпеня як па заказу (быццам бы Вышэйшыя сілы вырашылі аддзячыць вялікаму беларусу за яго вычын па выданні "Бібліі" на роднай мове) хмары рассеяліся, заблішчэла сонейка, і людзі з палёгкай уздыхнулі – свята не будзе сапсавана.

А 12 гадзіне дня ля зсівелых муроў старажытнага Лідскага замка на плошчы імя 600-годдзя горада адбылося ўрачыстае адкрыццё свята. Разнастайная насычаная праграма была прапанавана лідзянам і гасцям горада, у тым ліку з далёкага і блізкага замежжа. Гэта і выступленні вядомых прафесійных калектываў, як ансамбль танца "Хароשкі", ансамбль песні і танца і духавы аркестр Міністэрства абароны Рэспублікі Беларусь, камерны хор, артысты тэатра імя Я. Купалы і тэатра сатыры і гумару "Хрыстафор", ансамблі "Бліскавіца", "Рунь", "Чысты голас", "Музыкі", шоў-група "М+М", самадзейныя артысты мясцовых ансамбляў "Лідчанка" і "Чаравічкі", гэта і канцэрт майстроў эстрады, гэта і выступленне аршанскага і лепельскага тэатраў сатыры, кірмаш, выстава-продаж прадукцыі прадпрыемстваў горада, народных умельцаў і мастакоў, спартыўна-забаўляльная праграма, вершнікі на конях і гістарычныя персанажы, адкрыццё мастацкай галярэі (у былым будынку сямейных урачыстасцяў), дзе была выстава работ вядомых мастакоў з Менска У. Стальмашонка, А. Кашкурэвіча, У. Гоманава, І. Рэя ды іншых, а таксама лідскіх мастакоў У. Мельнікава. А. Судара, А. Вараксы, Т. Лук'ян, Л. Мягковай (г. Бярозаўка), А.Мурахвера (г. Бярозаўка), скульптара Р. Грушы (г. Ліда) і выхаванцаў СШ № 14 з архітэктурна-мастацкім ухілам. Было шмат і іншых цікавых святочных імпрэзаў. Здаецца, вуліцы і плошчы горада ў гэты дзень дыхалі паветрам незалежнасці; паветрам адраджэння.

(Працяг на ст. 4.)

### "НЕ, МАЕ ДАРАЖЭНЬКІЯ!"

*Паважаная рэдакцыя газеты "Уперад"! Прачытала артыкул у вашай газеце за 7 красавіка "Будзе ў горадзе помнік Ф. Скарыну", з якога даведалася, што на гэты самы помнік патрабуецца народных грошай больш як сто тысяч. Нічога сабе сума! На маю думку, у нас вельмі шмат нявырашаных пытанняў, і ўзводзіць пампезнасці няма патрэбы. У нас у горадзе няма Палаца піянераў, Палаца культуры, музычнай школы, маладыя сем'і туляцца па "абшчагах" – вось аб чым у першую чаргу трэба падумаць, а не ўзводзіць такія дарагія помнікі...*

***Е. Баязлівая, г. Ліда.***

*(Лідская газета "Уперад", 25.04.90 г.)*

### Помнік Ф. Скарыне – важная справа

*... Але вярнуся зноў да помніка Ф.Скарыне. Людзі ў далёкай Італіі, у Падуі ўвекавечваюць памяць аб першадрукару. А мы на тэрыторыі, дзе друкаваў свае кнігі Ф. Скарына, забываем нашага земляка. Мне здаецца, мы павінны ганарыцца, што менавіта ў нашым горадзе будзе знаходзіцца гэты помнік. Вядома, грошы пойдуць немалыя. Але хіба наш горад такі маленькі і бедны, што ў яго не хопіць грошай фінансаваць гэтую справу? Здаецца, не. Але калі так здарыцца, то ўсё роўна з любога становішча можна знайсці выйсце. Я, напрыклад, згодна з людзьмі, якія лічаць, што на помнік могуць пералічваць грошы не толькі жыхары нашага горада, але і Лідскага раёна, нават жыхары ўсёй Гродзенскай вобласці...*

***В. Гурневіч, навучэнка педвучылішча.***

*(Лідская газета "Уперад", 25.05.90 г.)*

### ЗБІРАЕМ ГРОШЫ НА ПОМНІК

*Першыя складкі ў Лідзе на пабудову помніка Францішку Скарыне паступілі ад калектываў абутковай фобрыкі, завода "Оптык", жыллёва-камунальнай гаспадаркі, педагагічнага і музычнага вучылішчаў, гаркама і райкама камсамола, першасных суполак ТБМ сярэдніх школ, дзіцячых садкоў.*

*З ініцыятывай пабудовы помніка выступіла Лідская гарадская рада ТБМ імя Францішка Скарыны. Той, хто жадае, можа дапамагчы ў пачэснай справе, пералічыўшы грошы на разліковы рахунак № 000700873 Лідскай гарадской рады Таварыства беларускай мовы ў аддзяленні Жылсацбанка г. Ліды.*

***Міхась Мельнік, старшыня Лідскай гарадскойРады ТБМ імя Францішка Скарыны, дэпутат Гродзенскага абласнога Савета народных дэпутатаў.***

*("Наша слова", 4-10 верасня 1991 г.)*

### НА ПОМНІК СКАРЫНЕ Ў ЛІДЗЕ

*У Лідскім аддзяленні Жылсацбанка адкрыты рахунак гарадской рады таварыства беларускай мовы імя Францішка Скарыны.*

*Мы звяртаемся да кіраўнікоў прадпрыемстваў і ўстаноў, кааператыўных гаспадарак, грамадскіх і рэлігійных арганізацый, першасных суполак ТБМ, усіх грамадзян, хто неабыякавы да лёсу беларускай мовы, дапамагаць адраджэнню і развіццю мовы нашага народа, які вынес праз стагоддзі безліч пакут, здзекаў, прыніжэнняў. Хай жыве запаветам у нашых сэрцах напамін вялікага Ф.Скарыны пра любоў і замілаванасць да родных мясцін і роднага слова, а таксама палымяны Багушэвічаў наказ: "Не пакідайце ж мовы нашай беларускай, каб не ўмерлі!"*

*Сябры, унясіце свой уклад на рахунак 000700873! Вашы сродкі пойдуць на прапагандысцкую, арганізацыйную, гаспадарчую і іншую дзейнасць на карысць нацыянальнай мовы і культуры, а таксама на адкрыццё помніка Францішку Скарыне на плошчы імя 600-годдзя Ліды.*

***М. Мельнік, старшыня гарадской рады Таварыства беларускай мовы.***

*(Лідская газета "Уперад", 30.02.90 г.)*

### Какой нужен памятник?

*Из Лиды пришла информация: городская рада Общества белорусского языка имени Франциска Скорины открыла счет для сбора средств на возведение в городе памятника первопечатнику, пятисотлетний юбилей которого широко отмечается. Поступили первые взносы.*

*Вроде бы надо радоваться столь замечательной инициативе – будет еще один памятник знаменитому просветителю. Но возникает вопрос: почему выбран именно этот город? Вот и Министерство культуры республики, к которому обратилась городская рада общества, не увидела необходимости установления такого памятника именно в Лиде. И в этой позиции, на мой взгляд, есть немалый смысл. Гораздо ближе к гродненской земле, ее истории творчество и биографии таких, скажем, писателей, как Валентин Тавлай, Тетка – наша песенная Элоиза Пашкевич, предвосхитившая свой поэзией творчество Купалы, Коласа, Богдановича...*

***В. Саласюк. (Собственный корреспондент "Советской Белоруссии" по Гродненской области.)***

*("Советская Белоруссия", 1990 г.)*

# ЛІДА - ГОРАД СКАРЫНЫ



**Помнік Францішку Скарыну ў Лідзе. Агульны выгляд.**

Шчырыя вiншаванні і пажаданні ў адрас лідзян выказалі ў сваіх тэлеграмах Старшыня Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь Станіслаў Шушкевіч, які ў гэты час знаходзіўся з афіцыйным візітам у ЗША, а таксама прэзідэнт Згуртавання беларусаў Свету "Бацькаўшчына", акадэмік Радзім Гарэцкі, старшыня Таварыства беларускай мовы імя Ф. Скарыны, Народны паэт Беларусі Ніл Гілевіч, бургамістр германскага горада-пабраціма Порта-Вестфаліка, прэзідэнт польскага горада-пабраціма Кашаліна, Маргарэт Тэчар з Англіі і іншыя. Сярод гасцей, прыбыўшых у Ліду на свята горада і на адкрыццё помніка Ф. Скарыну, былі Міністр замежных спраў Рэспублікі Беларусь Пётр Краўчанка, намеснік старшыні камісіі Вярхоўнага Савета па адукацыі; культуры і захаванні гістарычнай спадчыны Алег Трусаў, намеснік міністра культуры Дзмітры Бубноўскі; намеснік міністра інфармацыі Іван Карэнда, намеснік старшыні Рэспубліканскай рады Таварыства беларускай мовы імя Ф. Скарыны, народны дэпутат Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь Яўген Цумараў, пісьменнік Уладзімір Шнэк-Случанскі з Аўстраліі, адзін з кіраўнікоў федэральнай рады беларускіх арганізацый Аўстраліі Алег Шнэк, Вітаўт і Вера Рамукі (Чыкага, ЗША), дэлегацыі з Бураціі, Менска, Горадні, Смаргоні, Наваградка, лаўрэат Дзяржаўнай прэміі Беларусі імя Я. Купалы, паэтэса Данута Бічэль-Загнетава, намеснік старшыні камісіі Гарадзенскага абласнога Савета народных дэпутатаў па навуцы, культуры, адукацыі і выхаванні, старшыня Гарадзенскай краязнаўчай асацыяцыі, прафесар Андрэй Майсяёнак – і гэта не поўны пералік.

... І вось на вялізнай сцэне, змайстраванай напярэдадні свята каля замка, з'явіліся артысты ў беларускіх нацыянальных строях, а цёплыя парывы ветру панеслі іх песню высока ў неба, на даляглядзе з'явіліся на прыгожа ўбраных конях вершнікі ў латах і кальчугах, быццам маладыя воіны князя Гедзіміна паўсталі з мёртвых перад сваімі нашчадкамі, каб яшчэ раз нагадаць: "Сёння ў вас вялікае свята... Вы здабылі яго ў цяжкай барацьбе. Дык нясіце наш герб і бел-чырвона-белы сцяг, беражыце нашу родную мову, як калісьці бераглі мы, вашы продкі з Вялікага княства Літоўскага!..." Тры выбухі з гарматаў. Усе ажывіліся, узрадаваліся дзеці.

- Па Радзіме ідзе свята, - гаворыць мэр горада Ліды Уладзімір Малец.

Старшыня гарсавета пажадаў, каб свята яшчэ больш аб'яднала ўсіх нас, і закончыў выступленне заклікам "Жыве Беларусь!" Гэта выклікала вялікае ўзрушэнне сярод людзей на плошчы.

Затым -- афіцыйныя прамовы, якія не паспелі нікога стаміць, захапляльныя выступленні артыстаў.

Але, бадай, самае галоўнае ў праграме свята – адкрыццё помніка Францішку Скарыну. Калі ў горад прыйшло змярканне, наступіў кульмінацыйны момант свята. У 22 гадзіны пачалося шматтысячнае шэсце да помніка Ф. Скарыну. Дзесяткі тысяч людзей у святочным настроі прыйшлі да месца, дзе ўстаноўлены помнік, з хваляваннем чакалі моманту, калі спадзе белае покрыва. І гэты момант настаў... З невыказнай узрушанасцю сцягваюць покрыва Валеры Янушкевіч, Рычард Груша і Міхась Мельнік. Перад вачыма прысутных пры асвятленні яркіх пражэктараў і каляровых лямпачак паўстала постаць ва ўвесь рост тытана беларускага і Еўрапейскага Адраджэння, нашага вялікага асветніка і гуманіста Францішка Скарыны. Раздаюцца бурныя апладысменты, бадзёрыя крыкі: "Ура!" Грыміць салют у гонар знамянальнай падзеі. Пры святле ілюмінацыі чароўна льюцца мелодыі камернага хору Менскага музычнага ліцэя. Да падножжа помніка ўскладваюцца кветкі, сотні людзей запалілі свечкі, і ўжо не стрымаць рух да манумента. Свечкі і ружы - цяпло і адданасць.

У гэты час на небе расцвілі каляровыя агеньчыкі святочнага феерверку.

Раптам раскалола неба бліскавіца. Нібы пацвердзіла, што адбылося нешта вялікае, незвычайнае, нібы адказала на выбухі святочных гарматаў, што збудзілі ў гэты вечар жыццё ў Лідзе. Вось ён, Францішак Скарына, паўстаў ля дарогі, увайшоў у наш лёс, каб зноў сказаць нам: "...Ад прыраджэння звяры, што ходзяць у пустыніі знаюць ямы свае; птушкі, што лётаюць у паветры, ведаюць гнёзды свае; рыбы, што плаваюць па моры і ў рэках, чуюць віры свае; пчолы і тым падобнае бароняць вулляў сваіх; тако ж і людзі – дзе зрадзіліся і ўскормленыя суць па Бозе, к таму месцу вялікую ласку й маюць".

Тысячы лідзян і гасцей яшчэ доўга не хацелі разыходзіцца, тым больш, што апоўначы на плошчы каля Дома афіцэраў пачыналася начная дыскатэка. Свята працягвалася да раніцы... Назаўтра ішлі ды ішлі да помніка людзі!

... У прамовах перад манументам дзяржаўныя дзеячы, кіраўнікі горада і раёна, госці, аўтар Валеры Янушкевіч узнёсла гаварылі пра адкрыццё помніка першадрукару ўсходніх славян, як пра вялікую падзею ў жыцці нашай Бацькаўшчыны, аб слаўных справах Скарыны...

Сэрца поўніцца радасцю, што Ліда першая на Беларусі адкрыла помнік новага беларускага часу – помнік уласнай гісторыі і свайму герою, якога выбралі гараджане.

Скарына вярнуўся ў Ліду. Вярнуўся, каб прадоўжыць сваю асветніцкую, гуманістычную, высокадухоўную працу, гэтак неабходную нашаму грамадству, моладзі; нашай шматпакутнай Радзіме. Будзем памятаць, што выданні Ф. Скарыны – гэта справы духоўнасці беларускага народа, яго высокага прызначэння ў лёсе еўрапейскіх народаў.

*Міхась Мельнік, старшыня Лідскай гарадской рады Таварыства беларускай мовы імя Ф. Скарыны ў 1989-1997 гадах.*

У прыгожым маляўнічым месцы, каля фарнага касцёла, стаіць і красуецца помнік Францішку Скарыну, аўтар якога малады скульптар з Менска Валеры Янушкевіч. На гранітным пастаменце ўсталявана бронзавая выява, вышынёй болей як за тры метры, вядомага першадрукара з Полацка, які завітаў у Ліду нібыта напамінаючы нам пра былое, пра вялікую і багатую гістарычную спадчыну, пра славутыя імёны сыноў беларускай зямлі.

Кожны раз, калі я прахожу каля гэтага помніка, я адчуваю, як моцна б'ецца сэрца, а ў душы хораша і светла, бо я ганаруся працай тых людзей, якія тут працавалі. І гэта натхняе мяне на ўспамін.

Відаць, такі лёс, што мая сустрэча з Францішкам Скарыном у Лідзе была невыпадковай. Сёння я лічу, што гэта быў знак, які далі мне нябёсы, бо менавіта ўся мая творчая дзейнасць пачалася з устаноўкі гэтага помніка.

У 1992 годзе я арганізаваў МП "Дызайн", якое займалася будаўніцтвам, добраўпарадкаваннем тэрыторый і мастацкім афармленнем інтэр'ераў з прымяненнем тэхнікі кавальскай коўкі, разьбы па дрэву. У пачатку 1993 года, калі вялася гаворка пра стварэнне помніка ў Лідзе і ўстаноўцы яго, было шмат спрэчак, вакол гэтага хадзілі розныя чуткі і ўвогуле ў той час усе зацікаўленыя людзі якія прымалі ўдзел у ажыццяўленні гэтай ідэі, думалі пра сродкі, як іх здабыць, бо іх не хапала.

Як сёння помню з размовы са скульптарам, аўтар сказаў, што сродкаў далі 4000 дол., якіх хапіла толькі на матэр'ял і адліўку выявы ў бронзе.

У гарадской архітэктуры ў той час працаваў малады архітэктар Ю. Бірукоў, які распрацаваў праект прывязкі гэтага помніка да мясцовасці. Ён прапанаваў мне ўзяцца за працу па ўстаноўцы і добраўпарадкаванні тэрыторыі вакол помніка Ф. Скарыну. Калі я згадзіўся, мы з архітэктарам звярнуліся ў гарвыканкам да старшыні Уладзіміра Мальца. Сустрэча з Уладзімірам Міхайлавічам адбылася вельмі цікавая. Як аказалася, ён ускладваў на мяне вялікія надзеі, аказваў мне давер, як маладому кіраўніку, і жадаў плённай працы, пасля чаго мы падпісалі пагадненне аб выкананні будаўнічых работ па ўстаноўцы помніка. Гэта ўсё ўзлажыла вялікую адказнасць на мяне і маё прадпрыемства, але разам з тым дало вялікія сілы і гонар за сябе і калектыў, за што і сёння хачу выказаць вялікую падзяку У. Мальцу.

Пасля падпісання дамовы на будаўнічую частку, ужо ў чэрвені мы пачалі распрацоўваць дэталі і матэрыялы, рабіць нарыхтоўку сыравіны і весці іншыя падрыхтоўчыя работы.

З аўтарам помніка Валяр'янам Янушкевічам пазнаёміўся ўпершыню, калі ён прыехаў у Ліду ўдакладняць месца ўсталявання помніка. Тады ён таксама выказаў сумніў, ці будзе выканана праца выдатна, на што я адказаў, што не трэба хвалявацца, бо ўсё будзе добра. Тады я адчуваў вялікі гонар за тое, што мне давялося працаваць з маладым таленавітым скульптарам.



**Рычард Груша**

Праца якую выконвала прадпрыемства "Дызайн" была вельмі складаная, але адначасова і цікавая.

Да будаўнічай часткі працы мы прыступілі ў ліпені: яна вялася пад кантролем гарадской улады. Ужо тады можна было здагадацца аб значнасці гэтага аб'екта, таму што старшыня У. Малец быў у курсе усіх спраў, як вядуцца работы, а яго намеснік Мікалай Чарнышоў кожны дзень бываў на гэтай пляцоўцы. Усяго тады было і добрага, і дрэннага. Не усё атрымлівалася так, як хацелася. За два тыдні да адкрыцця помніка стала вядома ад аўтара В. Янушкевіча, што ёсць праблемы. Камень, які падрыхтавалі пад пастамент аказаў са шчылінай.

Гэты камень апрацоўвалі на мастацка-скульптурным камбінаце ў Калядзічах каля Менска. Пасля распілоўкі аўтар вызначыў камень не прыдатным для ўсталявання. Па гэтай справе мяне запрасіў старшыня гарвыканкама У. Малец. з пытаннем, якое выйсце можна знайсці у гэтым становішчы, бо тэрмін да адкрыцця быў невялікі. Тады я паабяцаў, што выйсце будзе знойдзена.

Каб вырашыць гэтую праблему я адправіўся на Украіну ў г. Карастышаў на адно з буйнейшых прадпрыемства па камнеапрацоўцы, якое узначальваў на той час і да сёння А. Вараной. Але і тут не маглі ў кароткі тэрмін выпілаваць гранітны камень тых памераў, якія патрэбны. Такім чынам мне давялося прыняць новае рашэнне, узгадніўшы з архітэктарам і аўтарам, купіць за ўласныя сродкі пліты вялікіх памераў і прывезці ў Ліду. Чаму за ўласныя сродкі? Таму што не было магчымасці пералічыць іх на рахунак украінскага прадпрыемства бо гэтыя сродкі былі пералічаны мастацкаму камбінату і іх трэба было вяртаць назад, але хутка гэта зрабіць было нельга. Вось такім чынам, праўдамі і няпраўдамі гранітные пліты былі перавезены цераз дзяржаўную мяжу і ўсталёўваліся за чатыры дні да адкрыцця.

А за два дні да адкрыцця быў прывезены помнік і ўсталёўваўся на гэты пастамент. Вакол помніка пасыпана чырвоная крошка, якая здабывалася з бітай цэглы. У апошнія чатыры дні перад адкрыцём нашыя рабочыя працавалі з ранку да цямна. І нават у апошні дзень людзі разам са мной у 6 гадзін раніцы выконвалі апошнія работы: чысцілі, мылі, падмалёўвалі. Такім чынам надавалі помніку ганаровы выгляд. А колькі гонару было на тварах маіх супрацоўнікаў!

Адкрыццё помніка адбылося і свята горад таксама. Усіх гасцей запрасілі на урачыстасць, але мяне і маіх супрацоўнікаў – не. Ды гэта не галоўнае, бо шчасце зусім у іншым, і помнік – прыгажун сёння красуецца, упрыгожвае родны горад.

Пасля адкрыцця помніка яшчэ доўга хадзілі чуткі пра тое, што гэты помнік для горада аказаўся залаты і каштаваў у шмат разоў больш, чым на самай справе.

А сёння мне ўдвайне прыемна, таму што з Ф. Скарыном я сустрэўся яшчэ раз у творчай працы, бо камень, над якім я сёння працую, і які будзе ўсталяваны ў Полацку каля Музея друку і адчынены ў гонар правядзення фестывалю стараславянскай пісьменнасці таксама будзе падарункам славутаму сыну слыннай беларускай зямлі.

*Рычард Груша, скульптар, у 1993 годзе дырэктар МП "Дызайн".*

# Супрацоўнікі кафедры гісторыі Мазырскага ДПУ нічога не ведаюць пра антырускае паўстанне 140 гадоў назад

*Рэдакцыя "Нашага слова" атрымала ліст з Мазырскага дзяржаўнага педагагічнага універсітэта за подпісам загадчыка кафедры гісторыі і методыкі выкладання гісторыі С.В. Цяляпень.*

**Уважаемый главный редактор!**

В № 22(609) от 18.06.2003 г. Вашей газеты была напечатана заметка "У Мазыры перавыдалі Мужыцкую праўду", в которой имеется следующее место: «16 траўня ў МДПУ суполка супольна з кафедрай гісторыі зладзіла ўрачыстую вечарыну з нагоды 140-вой гадавіны антымаскоўскага паўстання». Подписана заметка, содержащая информацию, напоминающую отчет бэнээфовца грантодателям, - «Наш. кар.»

В связи с означенной информацией официально уведомляю Вас, что кафедра истории и методики преподавания истории Учреждения образования «Мозырский государственный педагогическийуниверситет» в мероприятиях, посвященных 140-летию антирусского («антымаскоўскага» - по выражению «Наш. кара») выступления участия не принимала и принимать не могла. Сотрудникам кафедры вообще ничего не известно ни о каком антирусском восстании, имевшем место 140 лет назад, празднование годовщины которого было бы уместно в нашей стране.

От лица кафедры и по поручению ректората нашего университета прошу Вас дать опровержение упомянутой заметки. Также прошу Вас не оказать в любезности и на будущее оградить кафедру от провокаций со стороны «Наш. кара».

Заведующий кафедрой истории
и методики преподавания истории С.В.Телепень

09 7 2003.

Личную подпись заверяю
Инспектор ОК
10. июля 2003

Безумоўна, калі вечарыны з нагоды 140-х угодкаў паўстання Кастуся Каліноўскага ва універсітэце не было, то рэдакцыя прыносіць свае прабачэнні калектыву універсітэта.

Калі ж вечарына ўсё-такі была, а дагэтуль наш карэспандэнт з Мазыра ні разу нас не падвёў, то мы можам выказаць толькі спачуванне тым студэнтам МДПУ, што атрымліваюць адукацыю на кафедры гісторыі, на якой нічога не ведаюць пра буйнейшае антымаскоўскае паўстанне 1863 года, 140-выя ўгодкі якога дастаткова шырока адзначаюцца па ўсёй Беларусі, безумоўна, на недзяржаўным узроўні.

У адрозненне ад супрацоўнікаў кафедры беларусы ніколі не блыталі маскоўцаў з рускімі. Паўстанне 1863 года насіла антымаскоўскі, антыімперскі характар, але касінерам Каліноўскага не было чаго дзяліць з сялянамі, да прыкладу, Тамбоўскай губерні.

Сябрам ТБМ з Мазыра мы рэкамендавалі б у дадатак да "Мужыцкай праўды" выдаць і распаўсюдзіць у тым ліку і на кафедры гісторыі ліст Кастуся Каліноўскага "З-пад шыбеніцы" без савецкіх пераробак і скарачэнняў, дзе дакладна і проста напісана, што ***"толькі тады ў нас усё будзе, калі над намі маскаля больш не будзе".***

У сваю чаргу, паколькі газета "Наша слова" на кафедры гісторыі МДПУ, як відно з ліста, чытаецца, мы рэкамендуем супрацоўнікам кафедры, пачытаць п'есу А. Петрашкевіча "Рыцар свабоды", што якраз пачала друкавацца ў нашай газеце, і самім зрабіць высновы, хто там быў супраць каго ў гэтым паўстанні і наколькі можна атаясамліваць Мураўёва-вешальніка з рускім народам.

*С. Суднік.*

# Галіцкая алегорыя на тэму "зайчыка"



Гэты малюнак змешчаны ў львоўскім моладзевым часопісе "Торба". Заснавальнікамі "Торбы" выступаюць Львоўская абласная арганізацыя "Молода просвіта" і Львоўская абласная рада ЛОО ВУТ "Просвіта" імя Т. Шаўчэнкі. Украінская "Просвіта" -- арганізацыя з мэтамі і задачамі на Ўкраіне аналагічнымі мэтам і задачам нашага ТБМ у Беларусі.

# "Наша спадчына" ў Гудзевіцкім музеі

У Гудзевіцкім дзяржаўным літаратурна-краязнаўчым музеі, што ў Мастоўскім раёне на Гарадзеншчыне, адчынілася і плённа працуе філатэлістычная выстава "Наша спадчына". Падрыхтаваў яе са сваіх збораў выкладчык матэматыкі Пілкоўскай базавай школы Карповіч Лявон Эдуардавіч. Гэтая ж калекцыя ўдзельнічала ў III-й нацыянальнай філатэлістычнай выставае "Белфіла-2002", якая праходзіла з 28 лістапада да 9 снежня 2002 года ў Менску. Там Лявон Эдуардавіч быў узнагароджаны дыпломам і скураным медалём, г.зн. калекцыя ўвайшла ў лік самых лепшых.

Нарадзіўся Лявон Эдуардавіч 21 лютага 1944 года ў Ваўкавыску. Скончыў там восем класаў і паступіў у Жыровіцкі сельгастэхнікум. У далейшым атрымаў дзве вышэйшыя адукацыі: скончыў Беларускі інстытут механізацыі і электрафікацыі сельскай гаспадаркі і завочна педагагічны Гарадзенскі інстытут, матэматычнае аддзяленне. Так склалася, што сталым месцам жыхарства стала мястэчка Луна. Паўгода працаваў настаўнікам матэматыкі ў Луненскай СШ, чатыры гады быў дырэктарам Яблынёўскай школы, якую пазней зачынілі, і ён перавёўся ў Пілкоўскую БШ, дзе працуе і зараз.

Захапіўся філатэліяй Лявон Эдуардавіч параўнальна нядаўна, у 1991 годзе. І паспрыяў гэтаму вядомы беларускі філатэліст з Ваўкавыска Гушча Фёдар Антонавіч. З яго дапамогаю і непасрэдным удзелам у Гудзевіцкім музеі была арганіздавана першая ў незалежнай Рэспубліцы Беларусь філатэлістычная выстава, чым мы вельмі ганарымся. Ужо тады калекцыя ўражвала сваім багаццем Цяперашняя выстава дапоўнена шматлікімі экспанатамі: маркамі, канвертамі, паштоўкамі, таму з вялікай цікавасцю і захапленем успрымаецца наведвальнікамі.

Назва выставы "Наша спадчына" ўжо гаворыць сама за сябе. Па марках, канвертах, паштоўках можна прасачыць гісторыю Беларусі з часоў Полацкага княства да нашых дзён. Каментарыі гаспадара дапамагаюць лепшаму ўспрыманню матэрыялаў.

Рагвалод, Рагнеда, Усяслаў Чарадзей, Ефрасіння Полацкая – гэтыя імёны знаёмы нам з пачатковых класаў. Таму экспанаты з іх выявамі пазнаюць усе. А знакаміты крыж Ефрасінні Полацкай упрыгожвае многія маркі і канверты.

Вельмі багаты матэрыял сабраў Лявон Эдуардавіч па перыяду Вялікага Княства Літоўскага. Тут і канверты з выявамі ўсіх вялікіх князёў, пачынаючы ад Міндоўга, маркі з выявамі помнікаў дойлідства таго часу, маркі з партрэтамі Францішка Скарыны, Міколы Гусоўскага, Мікалая Радзівіла Чорнага, Льва Сапегі.

Добра паказаны ў калекцыі перыяд Рэчы Паспалітай. Многа марак з выявамі польскіх каралёў і вялікіх князёў. Паўстанне Т. Касцюшкі таксама знайшло тут сваё адлюстраванне.

Ёсць у калекцыі матэрыялы пра знаходжанне Беларусі ў складзе Расійскай імперыі. Добра паказана паўстанне пад кіраўніцтвам Кастуся Каліноўскага. Шмат марак прысвечана Адаму Міцкевічу.

Перыяд Беларускай Народнай Рэспубллікі прадстаўлены шматлікімі маркамі таго часу. Знайшлі сваё адлюстраванне ў калекцыі Вялікая Айчынная вайна. Чарнобыль. Ганаровае месца займаюць матэрыялы пра незалежную Беларусь.

Выставу з цікавасцю глядзяць, як маленькія наведвальнікі, так і дарослыя. І, напэўна, пасля яе прагляду кожны ўзбагаціць сябе новымі ведамі, адчуе гонар за сваіх продкаў.

***Вольга Клімуць,***
***в. Гудзевічы.***

# ВЕСТКІ З ВІЛЕНШЧЫНЫ

1. У засценку Вашунава паспяхова прайшло чарговае мерапрыемства на тэму: "З Богам, песняй, мовай...", прысвечанае 10-годдзю гіст.-этн.музея "Засцянковая хатка" ды 100-годдзю засценка Вашунава. Два дні, 28 і 29 чэрвеня, на Пятроў дзень, людзі прыходзілі сюды, каб пазнаёміцца з "Засцянковай хаткай", якая папоўнілася новымі экспанатамі, хаця дагэтуль панесла вялікія страты (зладзеі ўкралі патэфон, два самавары, бязмен і г. д. Зладзеі вядомыя, але міліцыя на гэта глядзіць скрозь пальцы). Малітва на роднай мове ля стацый Крыжовага шляху Ісуса Хрыста, гутаркі, спевы... – усё гэта цудоўна!

Развучаны два творы: "Гімн роднаму краю" ды "Вашунаўскі вальс" на словы Юрыя Гіля. Паклаў іх на музыку мясцовы скрыпач Раман Дубовік, вельмі добра атрымалася гэта.

Прыязджалі паглядзець "Засцянковую хатку" і настаўнікі Сітцаўскай школы, дзе арганізаваны гістарычны гурток, з якім наша ТБМ падтрымлівае сувязь з надзеяй там, у Сітцах, устанавіць Памятны Знак у гонар роду Дамейкаў (ёсць версія, што не ў Мядзведцы а ў Сітцах нарадзіўся Ігнат Дамейка.

На вялікі жаль, ніхто з Менска не прыехаў на нашае мерапрыемства ў Вашунава, хаця запрашэнні былі зроблены загадзя.

Што ж наступная сустрэча ў Вашунане адбудзецца ўжо ў наступным годзе, таксама на Пятро, якраз перад Буцкім Фэстам (2 ліпеня). Да рэчы Будслаў знаходзіцца у якіх 15 км ад Вашунава. Тут недалёка праходзяць і пілігрымы. Магчыма, у наступны раз яны завітаюць і ў Вашунава, дзе часова ўстанаўліваюцца 14 стацый Крыжовага Шляху Ісуса Хрыста.

Мясцовыя ўлады не пярэчылі правядзенню нашага мерапрыемства, магчыма не ведалі, бо мы не афішавалі, але усё ж далі указанні мясцоваму ксяндзу (ён з Польшчы) указанне, каб без дазволу не ўдзельнічаў у нашым мерапрыемстве. Зразумела мы на паклон да мясцовых уладаў не пайшлі і не пойдзем. У далейшым зробім так, як летась, г. зн. прыедзе ксёндз з Вільні і будзе з намі. Да сустрэчы "Засцянковая хатка" у 2004 годзе!

2. 27 ліпеня Народная партыя палякаў Літвы, дзе ёсць фракцыя (аддзел) беларусаў праводзіць сваю чарговаю канферэнцыю, у якой прымуць удзел ад ТБМ Гіль Юры, Ахрамовіч Ігар, Старавойтаў Андрусь ды іншыя беларусы. Будуць разглядацца важныя пытанні талерантнасці, узаемаразумення між літоўцамі, беларусамі і палякамі бо ёсць палітычныя сілы, як Акцыя выборча палякаў Літвы, дзе ўзялі верх шавіністычныя элементы, што ўносяць разлад між намі.

3. Свята песьні літоўцаў свету адбылося ў Вільні 3-6 ліпеня 2003 г. прысвечанае 750-годдзю першага караля Літвы Міндоўга. Гэта было цудоўна! Здавалася, што ў гэтыя чатыры дні Літва была маладой, у нацыянальным убранні. І сапраўды так. У першы дзень свята (3 ліпеня) на пл. Даўканта адбылося урачыстае адкрыццё фэстыны ды праведзены Дзень фальклору на Катадральнай плошчы. У пятніцу (4 ліпеня) – парад духавых аркестраў на Ратушнай плошчы ды Дзень танцу "Зялёнае дрэва жыцця" на стадыёне "Жальгірыс"

І нарэшце, у нядзелю, 6 ліпеня – святая імша ў Віленскім архікатэдральным саборы-базыліцы. Потым парад сцягоў і адкрыццё помніка каралю Міндоўгу. Затым святочнае шэсце да помніка Гедыміну ў парк Вінгіс, дзе адбыўся Дзень песьні, вялікі святочны канцэрт.

Кожныя чатыры гады літоўцы праводзяць такія мерапрыемствы, на якія збіраецца ўся Літва ды літоўцы з усяго свету. Нам бы, беларусам, павучыцца ў суседзяў, як шанаваць сваю мову, традыцыі, культуру... У такіх варунках у нас пакуль што гэта немагчыма, але прыдзе час, і на нашай вуліцы будзе свята.

***Юры Гіль,***
***старшыня ТБМ Віленскага краю.***

*Да 140-х угодкаў паўстання 1863 года*

Алесь ПЕТРАШКЕВІЧ

# РЫЦАР СВАБОДЫ

## Трагедыя ў дзвюх дзеях

*(Праця г. Пачатак у папярэднім нумары.)*

***Паліцмейстар.*** Которую?..

***Лосеў*** *(уважліва гледзячы на Каліноўскага).* Девицу Ямонт... Марыську.

*Полицмейстер выходзіць.*

А на тебе и волос не дрогнул...

***Каліноўскі.*** Не будем тыкаться, полковник!

***Лосеў.*** Именно этой реплики я от тебя и ожидал, интеллигент паршивый.

*Полицмейстер прыводзіць Марыську. Каліноўскі абыякава разглядае яе, бы незнаёмую.*

Госпожа Ямонт, знаете ли вы этого человека? Если да, то с каких пор, где встретились, каковы ваши взаимоотношения?

***Марыська*** *(даволі спакойна).* Я этого человека... вижу впервые.

***Лосеў.*** В вашем положении ответ естественный. Но вы все-таки присмотритесь повнимательнее и вспомните!.. Это, кстати, может значительно облегчить вашу участь, а равно и участь ваших родителей, сестер, брата...

***Марыська*** *(пасля доўгай паўзы).* Нет, я его не знаю.

***Лосеў.*** Точнее, вы забыли этого человека. Не велика беда. Нам напомнит о нем и о вас за одно повстанческий комиссар по Могилевской губернии Витольд Парфианович.

*Полицмейстер падае Лосеву папку з паперамі. Той бярэ з яе аркуш і зачытвае.*

"Приехав с Оскерко — это один из видных мятежников — из Минска в Вильно, мы остановились в "Петербургской" гостинице. Оскерко ушел в город, и, вернувшись около 4 часов пополудни, он меня взял к Ямонтам, там постучал в дверь, которую отворила, кажется, девица Ямонт, и мы вошли в маленькую комнату от входа прямо (в комнате вправо от двери находился диван, при нем стол и два стула, дальше стоял комод, окошко вправо от дивана выходило на галерею). Выйдя оттуда, мы нашли Макаревича и Владислава Милевича. Оскерко сказал мою фамилию, но Макаревич про свою умолчал, говорил, что назначит меня комиссаром в Могилеве..."

***Каліноўскі.*** Бред!.. Какой-то Парфианович, какой-то Макаревич, какая-то девица Ямонт...

***Марыська.*** Действительно, ваш Парфианович сказал "кажется девица Ямонт". Мало ли что ему могло показаться?! И при чем тут я?..

***Лосеў.*** Мы тщательно осмотрели дом Ямонтов и особенно комнату так детально описанную Могилевским комиссаром. Интерьер в ней не изменился. Все совпадает. Решили у вас спросить, не жил ли в ней Макаревич—Чарноцкий—Хамутиус—Витоженец, он же Викентий Константин Калиновский, он же Яська-гаспадар из-под Вильни?..

***Марыська.*** Вам нужен какой-то Калиновский, ну так ищите его! При чем тут я и наш дом?!

***Лосеў.*** Ваш дом, уважаемая госпожа Ямонт, был не только пристанищем главного распорядителя мятежа и диктатора Калиновского, но и резиденцией, где неоднократно заседало повстанческое, так называемое, Национальное правительство!

***Марыська.*** Не говорите глупостей, господин полковник.

***Лосев*** *(зрываецца на крык).* Мол-чать!.. *(Паліцмейстару.)* Пригласите госпожу Григотович!

*Паліцмейстар прыводзіць Марыю Грыгатовіч.*

Утверждаю доподлинно, что Калиновский под псевдонимом Макаревич проживал полтора месяца на квартире вдовы виленского губернского архитектора Юзефы Григотович и познакомился там с молодой квартиранткой означенной Юзефы — Стефанией Фальской. В ноябре 1863 года сей Макаревич поручил Фальской отвезти конспиративное письмо в Ковно. Там мы ее и арестовали. Перед вами дочь Юзефы Григотович Мария. Уважаемая госпожа Мария, известен ли вам этот человек, выдающий себя за Витоженца? Если известен, то откуда или от кого?..

***Грыгатовіч.*** Наша квартирантка Стефания Фальская сказала мне как-то, что получила упомянутое вами письмо от господина Макаревича, который проживал у нас, и что Макаревич известен так же под именем Константина Калиновского.

***Лосеў.*** Спасибо, госпожа Григотович... Все. Викентий Константин Калиновский, капкан полковника Лосева захлопнулся! Очень рад с вами познакомиться поближе.

***Каліноўскі.*** Не магу адказаць узаемнасцю. Я сапраўды Вікенці Канстанцін Каліноўскі — кіраўнік і распарадчык паўстання супраць расійскага царызму ў Літве і на Беларусі.

*Марыська губляе прытомнасць і падае на падлогу.*

***Лосеў*** *(Каліноўскаму).* Займитесь дамой, а вернее, невестой! *(Прапускае перад сабою Грыгатовіч, за імі выходзіць і Паліцмейстар.)*

*Каліноўскі падымае Марыську на рукі, пераносіць на ложак, спрабуе прывесці яе да прытомнасці, але дарэмна. Разгублена мітусіцца па камеры, грукочa ў дзверы.*

***Каліноўскі*** *(крычыць).* Паклічце доктара! Вады! Дайце шклянку вады! Яна ж памірае! Дайце вады!..

***Марыська*** *(вельмі ціха).* Не прасі, Кастусёк, я яшчэ не паміраю. Не прасі іх!

*Каліноўскі кідаецца да Марыські, дапамагае ёй сесці, сам апускаецца на калені, хавае свой твар у яе футры, каб не паказаць слёзы страху за яе. Яна гладзіць, перабірае яго валасы.*

***Каліноўскі*** *(глядзіць на дзяўчыну).* Любая, родная, мілая мая Марыська...

***Марыська*** *(бярэ яго твар у рукі).* Перапалохаўся?..

***Каліноўскі.*** Як ніколі ў жыцці.

***Марыська*** *(вінавата).* Галава закружылася, а зямля з-пад ног выскачыла. *(Смяецца, а потым усведамляе, дзе яны і што з імі адбываецца. Ускоквае з ложка з жахам. Каліноўскі таксама падымаецца з падлогі. Яна туліцца да яго грудзей, шукаючы абароны. Абодва заміраюць у абдымках.)* Кастусёк, даражэнькі, што ж цяпер будзе?! Што з намі ўсімі будзе?!. Як жа так сталася, што ты ў іх лапах аказаўся?

***Каліноўскі.*** Аднаму-адзінаму чалавеку адкрыў я сваё імя і... папаўся...

***Марыська.*** І нас усіх ноччу схапілі: і маму, і тату, і сясцёр, і брата, нават служанку Карусю...

***Каліноўскі.*** Адкуль яны прывялі цябе сюды, і дзе я сам знаходжуся?

***Марыська.*** Ты ў кляштары касцёла дамініканаў, а я насупраць у кляштары місіянераў. Нас падзяляе толькі двор. А дзе ўсе нашы – не ведаю. Я адна ў вязніцы... з мышамі...

***Каліноўскі.*** Любая мая, адзіная мая ў свеце, мне невыносна цяжка сказаць табе, але, здаецца, нас раздзяліў ужо не двор паміж двух храмаў, а сама вечнасць.

***Марыська*** *(амаль крычыць у споласу).* Не! Не! Не! Родненькі мой, як жа можна раздзяліць нас навечна, назаўсёды?!. Як жа можна... *(Плача.)*

***Каліноўскі.*** Будзь мужнай, сонейка маё ненагляднае, птушачка мая трапяткая... кветачка мая незабыўная...

***Марыська.*** Ты сапраўды нібы надоўга развітваешся са мною?..

***Каліноўскі.*** Ты амаль угадала. Я развітваюся з табою назаўсёды...

*Перапалоханымі вачыма яна глядзіць на яго і не верыць ні яму, ні сабе. А ён імправізуе, трымаючы яе за рукі.*

Марыська чарнабрэва, галубка мая.
Гдзе ж ся падзела шчасце і ясна доля твая?
Усё прайшло, — прайшло, як бы не бывала.
Адна страшэнна горыч у грудзях застала.
  Калі за нашу праўду Бог нас стаў караці
  Дай у прадвечнага саду вялеў прападаці,
  То мы прападзем марна, но праўды не кінем,
  Хутчэй неба і шчасце, як праўду, абмінем.
Не наракай, Марыся, на сваю бяздолю,
Но прыйміі цяжкую кару Прадвечнага волю,
А калі мяне ўспомніш, шчыра памаліся,
То я з таго свету табе адзавуся.

*Не выпускаючы рук Марыські з сваіх, ён апускаецца на калені і абсыпае рукі любай развітальнымі пацалункамі.*

Даруй мне! Даруй за ўсё, калі здолееш...

*Марыська таксама апускаецца на калені, абдымае любага, на нейкі момант замірае, а потым у адчаі, таропка абсыпае твар Кастуся пацалункамі.*

*Уваходзіць Лосеў і Паліцмейстар.*

***Лосеў.*** Свидание окончено!

*Каліноўскі ўстае з падлогі і падхопліваe Марыську. Паліцмейстар спрабуе ўзяць яе за плячо, каб вывесці сілаю. Яна спакойна адводзіць яго руку, жагнае суджанага, спіною адыходзіць да дзвярэй.*

***Марыська.*** Бывай, Кастусёк... *(Знікае за дзвярыма, за ёй выходзіць і Паліцмейстар.)*

***Лосеў*** *(садзіцца на зэдлік, Каліноўскага жэстам запрашае прысесці на ложак).* Прощание навсегда... Поцелуй в лоб... Сентиментальные стихи и тоже прощальные...

***Каліноўскі.*** Шпег-сышчык такога ўзроўню, а не ўтрымаўся, каб не прыліпнуць да замочнай шчыліны... Якая ганьба! Якая мярзота!..

***Лосеў.*** Мое особое внимание к вам, диктатор, объясняется не моей испорченностью, а моим желанием помочь вам избежать виселицы, в неизбежности которой вы убеждены совершенно обоснованно.

***Каліноўскі.*** Вы мне... дапамагчы?..

***Лосеў.*** Да, я!.. Все еще можно... Нет, не все, но кое что изменить можно.

***Каліноўскі.*** Патлумачце — не зразумеў...

***Лосеў.*** Вы мне раскрываете конспиративную сеть всей вашей заговорщицкой организации, называете явки и имена сообщников. которые еще не убежали за границу, а я убеждаю его высокопревосходительство генерал-губернатора проявить христианское милосердие к своему основному врагу и заменить смертную казнь повешением на поселение с милой в каком-нибудь сибирском шалаше. Большего обещать не могу. Уж больно велики ваши "заслуги" перед матушкой Россией.

***Каліноўскі.*** Не магу з гэтым пагадзіцца, пакольки заслугі перад матухнай Расіяй вашага "благородия" і яго "высокопревосходительства" генерала-вешальніка з заслугамі маімі ні ў якое параўнанне не ідуць.

***Лосеў.*** Не скромничайте, господин Калиновский, Россия ваших подвигов долго не забудет.

***Каліноўскі.*** Белая Русь, Літва, Польшча, Каўказ і народы ўсходніх і сярэднеазіяцкіх калоній Расійскай імперыі не тое што доўга, а ніколі ў вякі вякоў не забудуць вашых крывавых подзвігаў на іх землях.

***Лосеў.*** Так мы можем поссориться. И я хочу заметить, что без ваших признаний о ваших "подвигах" на вашей земле картина нашей борьбы не будет полной. Ваши признания — это единственный способ войти в историю. Иначе в безвестности окажетесь не только вы, но и ваши соратники, если вы сокроете их имена. В ваших интересах пополнить наш архив.

***Каліноўскі.*** Ці пра ваш архіў нам рупіцца? А свой мы захавалі надзейна. Час некалі аб'яднае іх і людзі ацэняць нашы вычыны па справядлівасці.

***Лосеў.*** Раньше, чем это случится, пройдут столетия.

***Каліноўскі.*** Але ж яны пройдуць. А вам не цярпіцца сёння ўведаць наш досвед, нашу практыку, нашу тэхналогію барацьбы за наша выжыванне. Яны патрэбны вам, каб апярэджваць супраціўленне заваяваных, прадбачыць вывяржэнне вулканаў народнага гневу, тапіць людзей у крыві загаддзя, да таго, як яго пякельная лава спапяліць акупантаў.

***Лосеў.*** Я рад, что вы все понимаете правильно. И надеюсь, тщательно обдумаете мое предложение. Игра стоит... жизни. Размышляйте!.. Думайте!..

***Каліноўскі.*** Што ж яшчэ застаецца рабіць у турме, як не думаць.

***Лосеў.*** Константин Семенович, право же, я как профессионал отношусь к вам с уважением. Более того, вы мне просто симпатичны. Вы мой достойный визави.

***Каліноўскі.*** Даруйце, я так не думаю і з гэтае прычыны не магу адказаць вам узаемнасцю.

***Лосеў.*** И тем не менее, советую вам помнить, что от меня и ни от кого другого зависит быть вам или не быть. *(Устае з зэдліка.)* Честь имею!

***Каліноўскі*** *(таксама ўстае з ложка).* Сумняваюся...

***Лосеў.*** Простите, не понял?..

***Каліноўскі.*** Сомневаюсь, говорю, что вы честь имеете...

***Лосеў*** *(стрымана).* Не заботьтесь о моей чести, но позаботьтесь о своей судьбе. *(Ад дзвярэй.)* Особая следственная комиссия армейских костоломов выпотрошит вас до основания и ходатайствовать за вас перед Муравьевым-вешателем не станет. И слушать вас на вашем дурацком наречии не будет.

***Каліноўскі.*** Канкурэнтная фірма па здабычы чыноў і званняў у вобліку Асобай следчай камісіі?..

***Лосеў.*** Вы мой трафей. И приз охотника на крупную дичь возьму я. Или я не Лосев!

***Каліноўскі.*** І ўсё ж здаецца мне, не пераплюнеце вы ні Асобую камісію, ні вешальніка і за мой кошт перад аўгусцейшым манархам не выслужыцеся.

***Лосеў.*** Я не из тех, кто теряет надежду при встрече с трудной клиентурой. *(Выходзіць.)*

*Сцэна зацямняецца.*





IV

*Пакой Асобай следчай камісіі падобны на генерал-губернатарскі, толькі без багатай мэблі і гадзінніка, без геаграфічных картаў на сценах. Сцяна злева зацягнута парт'ерай.*

*За сталом пад партрэтам Аляксандра II — палкоўнік Шалгуноў, за асобнымі сталамі каля сцяны злева — штабс-капітан Сямёнаў і паручнік Гогель.*

*Лосев прыводзіць Каліноўскага.*

***Лосев.*** Здравия желаю, господа офицеры!

***Каліноўскі.*** Добрай раніцы, панове.

***Шалгуноў*** *(крыху здзіўлена)*. Вы считаете ее доброй?..

***Каліноўскі.*** Раніца добрая сама па сабе і на шчасце не залежыць у дадзеным выпадку ад майго самаадчування.

***Шалгуноў.*** А вы не могли бы изъясняться с нами на русском?

***Каліноўскі.*** Я мог бы яшчэ на мове польскай і французскай, але ж вы пагарджаеце польскай, як і беларускай, а французская пасля паўстання "декабристов" у Расіі таксама павагай не карыстаецца. Таму я буду размаўляць толькі на мове сваіх бацькоў, дзядоў і прадзедаў і маўчаць на ўсіх іншых, у тым ліку і на вашай расійскай.

***Лосеў*** *(падыходзіць да Шалгунова)*. Распишитесь, господин председатель, о принятии от меня сего здешнего феномена на свое попечение. *(Дае на подпіс аркуш з папкі, забірае яго.)* Честь имею! *(Выходзіць.)*

***Шалгуноў*** *(да Сямёнава і Гогеля)*. Господа члены Особой следственной комиссии, ваше мнение относительно заявления подследственного?

***Сямёнаў.*** Возмутительное заявление.

***Гогель.*** Считаю необходимым применить особые способы допроса и этот дьявол заговорит на языке ангелов!..

***Шалгуноў.*** Если перед нами действительно дьявол, то во плоти интеллигентного человека, исповедующего местный патриотизм, то есть национализм, что вполне понятно и требует в данных условиях определенного компромисса, поскольку в ином случае подследственный доставит себе излишние страдания, а нам - дополнительные хлопоты и потерю драгоценного времени. *(Да Каліноўскага.)* Что вы можете предложить со своей стороны, чтобы действительно избежать спецдопросов?

***Каліноўскі.*** Наколькі мне вядома, паручнік Гогель, а ў сапраўднасці Гугель, што азначае "плевелы", пустазелле ў жыце, тутэйшы і ведае не толькі матчыну мову, але і валодае, як бачу, стэнаграфіяй. Няхай працуе, і следчая камісія будзе мець абсалютна дакладныя чарнавыя стэнаграмы-справаздачы допытаў.

***Шалгуноў.*** Это что-то, но еще не компромисс. *(Да Сямёнава.)* Ваши соображения, штабс-капитан?..

***Сямёнаў.*** По двуязычной стенограмме мы с поручиком составляем официальный протокол допроса, естественно, на русском, а подследственный его подписывает.

***Каліноўскі.*** Толькі пасля прачытання, выпраўлення і магчымых дапаўненняў.

***Шелгунов.*** Условились... Итак... ваша фамилия, имя, отчество? К какому сословию принадлежите?

***Каліноўскі.*** Вікенці Канстанцін Каліноўскі, сын Сымона. Бацька - спадчынны шляхціц, я — проста грамадзянін.

***Шалгуноў.*** Возраст, вероисповедание?

***Каліноўскі.*** Каталік. Днямі споўнілася 26.

***Шалгуноў.*** Место рождения?

***Каліноўскі.*** Вёска Мастаўляны Гарадзенскага павету.

***Шалгуноў.*** Место учебы, образование?

***Каліноўскі.*** Свіслацкая гімназія, у 56—60-гады — Пецярбургскі універсітэт. Скончыў камеральнае аддзяленне юрыдычнага факультэта са ступенню кандыдата.

***Шалгуноў.*** Есть ли вопросы к подследственному по последнему эпизоду.

***Сямёнаў.*** Учеба — времена романтические. Назовите, так сказать, ваших кумиров...

***Гогель.*** ...и властелинов дум.

***Каліноўскі.*** Да першых я бы аднёс Адама Міцкевіча і Андрэя Тадэвуша Касцюшку, да другіх — Герцана, Чарнышэўскага, Дабралюбава...

***Сямёнаў.*** Какими науками увлекались в Петербурге?..

***Каліноўскі.*** Класічнай нямецкай філасофіяй і заходнееўрапейскім сацыялізмам, вывучаў культуру і гісторыю славянскіх народаў.

***Гогель.*** В общество "Земля и воля" входили?..

***Каліноўскі.*** Не ўваходзіў, але сувязі не губляў.

***Сямёнаў.*** В университете и стали врагом самодержавия и крепостничества, так сказать, в знак благодарности за науку уму-разуму.

***Каліноўскі.*** Умом-разумам і ўсімі фібрамі душы я ўзненавідзеў прыгон, самаўладдзе і яго акупацыю маёй Бацькаўшчыны яшчэ ў Свіслацкай гімназіі. А ва універсітэце стаў перакананым прыхільнікам і прапагандыстам рэвалюцыйна-дэмакратычных ідэй.

***Шалгуноў.*** Место жительства после Петербурга?

***Каліноўскі.*** Зрабіўшы некалькі няўдалых спроб уладкавацца на працу ў Пецярбургу, у 1861 годзе вярнуўся ў Вільню, але і тут, а затым і ў Горадні мне было адмоўлена ў працы, хоць без справы склаўшы рукі я не сядзеў і стварыў даволі моцную і ўплывовую рэвалюцыйную арганізацыю.

***Шалгуноў.*** Почему опять очутились в Вильно?

***Каліноўскі.*** З канспіратыўных меркаванняў — даведаўся пра распараджэнні начальства гарадзенскага аб маім арыштаванні.

***Шалгуноў.*** Перечислите в хронологической последовательности ваши революционные должности!

***Каліноўскі.*** У 1856—60 гады – кіраўнік левага рэвалюцыйнага крыла зямляцтва студэнтаў універсітэта — выхадцаў з Беларусі, Літвы і Польшчы. З вясны 61-га года, як я ўжо сказаў, – стваральнік і кіраўнік рэвалюцыйнай арганізацыі ў Горадні. З лета 68-га — сябар "Камітэта руху" ў Вільні, рэдактар, аўтар і выдавец "Мужыцкай праўды". З восені — старшыня паўстанцкага Літоўскага правінцыйнага камітэта. У сакавіку 63-га – рэвалюцыйны камісар Гарадзенскага ваяводства; у траўні — паўстанцкі цывільны начальнік Гарадзенскага ваяводства; з чэрвеня — сябар Паўстанцкага Аддзела Літвы і кіраўнік аддзялення ўнутраных спраў; у ліпені ўзначаліў "Чырвоны жонд" — гэта па нашаму паўстанцкі Нацыянальны ўрад Літвы і Беларусі.

***Шалгуноў.*** То есть сконцентрировали в своих руках всю полноту революционной власти в восставшем крае?

***Каліноўскі.*** Вядома.

***Гогель.*** Некоторые, ваше благородие, с этого времени и, разумеется, до арестования называли его диктатором и даже королем Литвы и Беларуси.

***Каліноўскі.*** Я таксама пра гэта чуў...

***Сямёнаў.*** Какие из важнейших приказов, призывов, циркуляров, постановлений, инструкций для мятежников и их бандформирований написаны вами лично?

***Каліноўскі.*** Усе найбольш важныя дакументы, звязаныя з народным паўстаннем у літоўска-беларускім краі і дзейнасцю на яго тэрыторыі паўстанцкіх аддзелаў і іх кіраўнікоў напісаны мною або пры маім удзеле ці па маёй ініцыятыве.

***Сямёнаў.*** Перечислите главные из важнейших.

***Каліноўскі.*** Думаю, што гэта інструкцыя Літоўскага правінцыяльнага Камітэта для павятовых і акруговых начальнікаў; інструкцыя для вайсковых паўстанцкіх начальнікаў; цыркуляр супраць дэзінфарматараў; дадатковая і падрабязная інструкцыя для павятовых камісараў; загад да народу зямлі Літоўскай і Беларускай і, вядома ж, адозва з заклікам да народу ўзнімацца на рашучую барацьбу.

***Гогель.*** Авторство воззвания к усилению революционного террора тоже принадлежит вам?

***Каліноўскі.*** Як і загад Гарадзенскага камісара.

***Гогель.*** А постановление Революционного трибунала о смертной казни предводителя дворянства Виленщины господина Домейко посредством использования убийц-кинжальщиков?..

***Шалгуноў.*** К этому эпизоду мы обратимся особо.

***Гогель.*** Слушаюсь!

***Шалгуноў.*** А теперь о знакомствах по приезде из Гродно в Вильно...

***Каліноўскі.*** У Вільні сустрэўся са знаёмым па універсітэту інжынерам шляхоў зносін, кіраўніком партыі "чырвоных" Уладзіславам Малахоўскім, праз яго выйшаў на службоўца чыгункі Нестара Дзюлёрана, які забяспечыў мяне дакументамі на імя Макарэвіча. Праз апошняга пазнаёміўся з Ануфрыем Духінскім, і калі ён быў прызначаны паўстанцкім ваяводаю ў Гарадзенскую губерню, то ўслед за ім па загаду Дзюлёрана з пашпартам на імя Чарноцкага я выехаў у Беласток для збору і дастаўкі Дзюлёрану звестак аб стане паўстанцкіх аддзелаў.

***Шалгуноў.*** Назовите сообщников по этой поездке и предводителей бандитских шаек Гродненщины.

***Каліноўскі.*** Хаўруснікаў не меў, кіраўнікоў паўстанцкіх аддзелаў не памятаю. Амаль тры гады прайшло і кожны з сотняў меў не прозвішча, а мянушку. Хіба ўсіх успомніш.

***Шалгуноў.*** Дальше...

***Каліноўскі.*** З Беластока і Гарадзеншчыны зноў быў адкліканы ў Вільню Дзюлёранам, у якім па прыездзе ўбачыў галоўнага рухавіка паўстання ў нашым літоўска-беларускім краі ў званні камісара Варшаўскага Цэнтральнага Нацыянальнага Камітэта і Нацыянальнага ўрада ў Літве і на Беларусі.

***Шалгуноў.*** В какой номинации вы были при Дзюлёране?

***Каліноўскі.*** Не даючы ніякай намінацыі, ён прыняў мяне як бы сваім сакратаром. Я займаўся перапіскаю звестак і напісаннем артыкулаў аб ходзе паўстання для адсылкі за мяжу, даводзілася пісаць і намінацыі на прызначэнні...

***Шалгуноў.*** Называйте, кого и на какие должности назначал Дзюлёран!

***Каліноўскі.*** Памятаю, што пісаў намінацыю для Францішка Канаплянскага на паўстанцкага цывільнага начальніка Віленскага ваяводства...

***Шалгуноў.*** Еще на кого?!

***Каліноўскі.*** Амаль адначасова з Канаплянскім на пасаду камісара Віленскага ваяводства былі прызначаны Сухадольскі-Дармапоўскі і Малахоўскі на паўстанцкага начальніка Вільні.

***Сямёнаў.*** И все?!

***Каліноўскі.*** На шчасце больш нікога не памятаю.

***Шалгуноў.*** Куда девался Дзюлёран?

***Каліноўскі.*** Бадай што эміграваў.

***Шалгуноў.*** А вы приняли на себя роль главного распорядителя в крае?

***Каліноўскі.*** Так!

***Шалгуноў.*** Есть ли вопросы к подследственному у членов комиссий?

***Гогель.*** Да! Кто стал начальником Вильно после бегства Молоховского?

***Каліноўскі.*** Міхаіл Ляпкоўскі.

***Гогель.*** Где он сейчас?

***Каліноўскі.*** А Бог яго ведае. Кожны ратуецца, як можа.

***Сямёнаў.*** Кто стал начальником Вильно после Лепковского?

***Каліноўскі.*** Гэту пасаду я даручыў свайму бліжэйшаму памочніку Ціту Далеўскаму.

***Гогель.*** Назовите иных своих ближайших помощников.

***Каліноўскі.*** Назаву хіба толькі светлай памяці Ігната Здановіча, пакаранага вамі смерцю, ды Томаша Грагатовіча, сябра Літоўскага аддзела.

***Сямёнаў.*** Кто еще были членами Литовского отдела?

***Каліноўскі.*** Аддзел распаўся яшчэ пры Дзюлёране, хто былі яго сябрамі мне невядома.

***Шалгуноў.*** Какие распоряжения и кому осенью прошлого года вами отдавались в усилиях поддержать активность бандформирований и отдельных бандитских шаек?

***Каліноўскі.*** Дзейнасць мая напярэдадні зімовых халадоў 64-га года ў намаганнях падтрымаць народную справу барацьбы з расейскімі акупантамі абмяжавалася толькі распараджэннямі аб зборы звестак пра стан баявых злучэнняў і аддзелаў і іх дзейнасці, аб агульным настроі нацыянальнага духу і пра барацьбітоў, што загінулі ці былі схоплены карнікамі.

***Шалгуноў.*** И каковы были ответы с мест?

***Каліноўскі.*** У асноўным не ўцешныя. Таму ў сувязі з немагчымасцю зімою прадаўжаць барацьбу, я зрабіў распараджэнне аб роспуску аддзелаў з выдачаю, калі будзе магчыма, адпускных білетаў касінерам і іх камандзірам... да вясны.

***Шалгуноў.*** Ваши назначения в это время в губерниях? Поименно!

***Каліноўскі.*** Памятаю, бадай, што толькі кіраўніка Саву — відаць, гэта псеўданім, — і нейкага Міцкевіча, прызначаных начальнікамі аддзелаў.

***Сямёнаў.*** Кто такие Пеликша и Свенторжецкий?

***Каліноўскі.*** Чуў ад Дзюлёрана, што яны нібыта прымалі ўдзел у справах Менскай губерні.

***Гогель.*** Где находится Шадурский?

***Каліноўскі.*** Хто ён такі і дзе знаходзіцца мне не вядома. І наогул, за выключэннем асобаў, мною ўжо названых, я больш ні з кім у непасрэдныя адносіны не ўваходзіў, нікога з асобаў, якія ім садзейнічалі, не ведаю ні ў Вільні, ні ў іншых губернях, можа, за выключэннем толькі Людвіка Дзічкоўскага -- Ковенскага паўстанцкага цывільнага начальніка і Альберта Грабоўскага — інфляндскага паўстанцкага ваяводы.

***Сямёнаў.*** Кого знаете из воевод и главарей восстания в иных губерниях Северо-Запада России?

***Каліноўскі.*** У Віленскай губерні, як вядома, пасля Канаплянскага ваяводы наогул не было, а хто ім быў у Менскай, не ведаю, з Віцебскай жа сувязі не меў, а Гарадзенская са жніўня мінулага года па кіраванню паўстаннем адышла да Варшаўскага камітэту.

***Гогель.*** Кого знаете из членов Комитета опеки в Вильно?

***Каліноўскі.*** Нікога не ведаю, тым больш, што ён, наколькі мне вядома, даўно ўжо не існуе. Але, між іншым, у Вільні ёсць асобы, што служаць справе дабрачыннасці і спагады сем'ям, што пацярпелі ад душыцеляў рэвалюцыі, але я іх, нажаль, не ведаю.

***Шалгуноў.*** Кто такие Александр Оскерко, Яков Гейштар, Купеть, Баневич, семейство Кандратович?

***Каліноўскі.*** Названых мне асобаў не ведаю.

***Шалгуноў.*** Назовите адреса ваших явочных квартир в Вильно.

***Каліноўскі.*** Кватэр наймаў некалькі, але ні адна з іх не была явачнай.

***Шалгуноў.*** Хозяева квартир?..

*(Працяг у наступных нумарах.)*

*Міхась Пянкрат*

# БЫЛА ЖНІВЕНЬСКАЯ РАНІЦА ...

Колькі незабыўных сустрэч, колькі горкіх расстанняў пераакруцілася ў маім жыццёвым вадавароце! І цяпер, на схіле гадоў, нібы ў замаруджаным кіно, мне бачацца непаўторныя кадры з тварамі такіх блізкіх, дарагіх, родных...

Сябры пісьменнікі.

Аднадумцы.

Сучаснікі.

Зрэшты, проста людзі, з якімі дзяліў і радасць, і гора, з якімі з'еў не адзін пуд знакамітай солі...

Вось яны перад вачыма, як жывыя: Уладзімір Корбан, Анатоль Астрэйка, Сяргей Дзяргай, Антон Бялевіч, Рыгор Няхай, Эдуард Валасевіч, Алесь Рылько, Алесь Пальчэўскі, Міхась Васілёк, Аляксей Кулакоўскі, Сцяпан Гаўрусеў, Іван Грамовіч, Раман Сабаленка, Янка Скрыган, Адам Русак, Пятро Сушко, Віктар Шымук...

За кожным з гэтых імён, - напластаванне гадоў, адзначаных радасцю сустрэч і палыновымі расстаннямі...

А вось стаяць перад вачыма твары людзей, якіх сустракаў толькі аднойчы, а памяць ад тых сустрэч засталася ў сэрцы да скону...

І адразу ж буйным планам – Рыгор Кобец...

Толькі адна мне была суджана сустрэча, але яна, як падарунак лёсу – навек.

Як пажыццёвая ўзнагарода.

Як гасподні дар.

Як позняя ўцеха за маё задарма растрачанае жыццё...

А была цёплая жнівеньская раніца, здаецца 1974 года. Я і мой сусед па дому, цудоўны оперны спявак Віктар Кірычэнка, валачэм пустыя бутэлькі на прыёмны пункт шклотары, што на рагу вуліц Якуба Коласа і Чарнышэўскага.

Асмяглыя душы прагнуць апахмелкі пасля ўчарашняга нейкага свята. Грошай – кот наплакаў, адзіная надзея на шклотару...

Па дарозе Віктар на поўны голас абураецца, не зважаючы на аглядкі мінакоў:

- Міхась, ты толькі паслухай, што спяваюць па нашаму шаноўнаму радыё: "И хожу совсем я не женатый ..." Як гэта – "совсем не женатый?" Гэта ж натуральная марковіна з хрэновінай...

- І ужо стоячы ў бутэлечнай чарзе, Віктар аніяк не можа забыцца на тыя і сапраўды непісьменныя радкі з вядомага тады шлягера. Паклаўшы на свой цудоўны тэнар гэтую несуразіцу, ён раптым на поўны голас здзекліва праспяваў:

- И хо-жуу со-о-всем я не же-на тый..."

Чарга добразычліва смяецца, замілавана глядзячы на чорна-кучаравага прыгажуна-балагура.

А перад намі ў чарзе стаіць невысокі чалавек, з акуратнымі шэрымі, з іржынкай, вусамі. Вочы прамяністыя, добрыя, нейкія пацёпламу хатнія. Вакол вачэй – гоненькія курыныя лапкі маршчынак... На чалавеку – чорны, падношаны пінжачок, крышачку каратковаты, у абцяжку. Ад гэтага яго пастава нагадвае хлапчуковую: роўненькая, акуратная, маладая.

Гэты чалавек таксама паварочвае галаву і па-добраму ўсміхаецца. У мяне часцей пачало тахкаць сэрца: я ведаю гэтага чалавека! Няхай сабе шапачнае знаёмства, а ведаю!

А мой сябра прадаўжае пацяшаць публіку. Ён народжаны для публікі, ён не можа без яе, гэта яго жыццё. Разумею, а ўсё ж, баючыся, каб мой сябра ў запале не сказаў чаго лішняга, я лёгенька кранаў яго за плячо...

Ён мяне зразумеў і ўсё абышлося.

Здалі бутэлькі. Ідзём у прадуктовы магазін. Па дарозе Віктар пытаецца ў мяне:

- Міхась, а чаго гэта ты мяне торкаў пад лапатку?

- А ведаеш, хто стаяў перад намі ў чарзе? – у сваю чаргу запытаўся я.

- Ну, стаяў там вусаты, сімпатычны мужчына. Мне так і карцела запытацца ў яго: "А можа і вы "совсем не женатый?!...

- І вельмі добра, што не запытаў. Перад намі стаяў старэйшы беларускі пісьменнік. І не толькі старэйшы, а цікавейшы! Адзін з аўтараў няўміручага кінафільма "Шукальнікі шчасця".

- А вохці ж мне!, – хапіўся за сваю класічную шэвялюру Віктар. Няўжо Рыгор Кобец?!

Атаварыўшыся ў прадуктовым магазіне, мы сталі на раздарожжы: куды падацца, каб падлячыць хворыя галовы? Такую далікатную справу рабіць дома, - рэч не дужа прыемная. І як заўсёды раптам, да мяне раптам, прышла шчаслівая згадка:

- Пойдзем у пісьменніцкую "хрушчоўку". Гэта ж тут, побач, на Чэрнышэўскага. Там мы пэўна знойдзем спагадлівыя душы...

Зайшоўшы ў знаёмы мне двор, мы абмяклі ад неспадзяванкі: на лавачцы, каля пад'езда, зядзеў... Рыгор Кобец у поплеччы з Алесем Пальчэўскім і яго жонкай Тамарай Цалукідзе!

Адступаць было позна, - нас прыкмецілі.

Падышлі да лаўкі. Неяк няскладна прывіталіся. Віктар старатліва намагаўся прыкрыць рукою бутэльку, што здрадліва тырчэла з кішэні яго моднага пінжака. Няёмкую замінку развязаў умудроны жыццёвым досведам, Алесь Пальчэўскі:

О, Міхасёк, мы так даўно не бачыліся! Тут, браце ты мой, і кілішак не будзе лішнім...

Я ведаў, што Алесь Пальчэўскі не дужа паважае бутэлечнае застолле, а сказаў гэта так, дзеля прыліку.

- Кілішак ў нас знойдзецца, - злавіў на слове Алеся мой сябра.

- Бачу, што ні Алесь Пальчэўскі, ні Тамара Цалукідзе, ні Рыгор Кобец, не ведаюць у твар Віктара Кірычэнкі. Я крыху збянтэжана, і крыху ганарліва прадставіў:

- Гэта Віктар Кірычэнка. Заслужаны артыст Рэспублікі. Оперны тэнар...

Тамара Цалукідзе, як бы крылцамі, узмахнула поўненькімі ручкамі, -сама ж артыстка:

- А божачка! – я ж слухала па радыё неапалітанскія песні ў вашым выкананні. Гэта ж цудоўна!

Словам, знаёмства адбылося. Тамара Цалукідзе, чыста па-жаночаму, неяк скасавата паглядзела на бутэльку ў руцэ Віктара і дабразычліва папракнула:

- Ох, гэтыя мужчыны! Іх хлебам не кармі, а дай патрымацца за бутэльку...

Прыпадняла з лаўкі сваё цежкаватае цела і даба-віла:

- Пайду па бутэрброды...

Праз нейкі час наша бутэлька стала звычайнаю шкляною тарай. Ільвіная доля, вядома, дасталася мне і Віктару, але, галоўнае, што адносіны раскрэпасціліся, пачалі гаварыць вольна, слабодна, спачатку гамонку вялі аб тым-сім, пакуль не ўзбіліся на вузенькую тэму: геніяльныя фразы вялікіх майстроў мастацтва.

Тамара Цалукідзе:

- Памятаеце Ранеўскую? "Фіця, не нервіруй мяне..." Ну нічагусенькі няма выдатнага ў гэтай звычайнай фразе, а яе паўтарала цэлае пакаленне! Гэта магія вялікага майстра...

Алесь Палчэўскі:

- А памятаеце нашага славутага Пятра Алейнікава ў кінафільме "Трактарысты"? Ах ты милая моя, я тебя дождался..." Гэта ж, калі хочаце маленькі шэдэўр...

Віктар Кірычэнка:

- Гэта праўда, - славутыя фразы перажываюць сваіх аўтараў. Хіба можна забыць, скажам, такую карцінку? Бедны, без кала і двара яўрэй, у якога і ўся маёмасць – голы кукіш у дзіравай кішэні, плыве на параходзе па авантурнае шчасцем. І вось гэты "багач" дзеславіта пытаецца ў капітана карабля: "Скажыце, калі ласка, колькі каштуе гэты параход?" Бачыце, якая несакрушальная вера ў сваё шчасце: не маючы за душою і малога, а чалавек замахваецца на вялікае. І смешна, і балюча. Таленавіта і звонка. Чэсна і сардэчна, чыста па-шоламалейхімаўску...

- Я глянуў на Рыгора Кобеца. Мне падалося, што ён крышачку разгубіўся! І, нават, пачырванеў. Праз нейкую хвілю, не падымаючы галовы, ціха, ён стрымліва сказаў:

- Тады час быў вельмі рэдзенькі, беднаваты на высокую літаратуру і мастацтва. Усё больш-меньш значнае затрымлівалася ў людской памяці. А цяпер... Цяпер процьма значнага і, нават, вялікага, але нам няма часу звяртаць на гэта ўвагу. Мы некуды бяжым, спяшаемся і часам топчам усё непаўторнае і святое, што ў нас пад нагамі...

Божа літасцівы, як гэта правільна! Рыгор Якаўлевіч як бы цвік за біў у дубовую дошку. Справа не ў фразах, з рэшты, а ў жыццёвым, сацыяльным укладзе на гэтай змардаванай і такой грэшнай зямлі...

Потым мы гаварылі пра розныя жыццёвыя дробязі: пра надвор'е, пра сацыяльную несправядлівасць, пра горкі лёс пісьменніка Уладзіміра Дадзіёмава, які ў гэты час хадзіў па дыяганалі двара: ціхапамешаны, адзічэлы, аброслы, яшчэ малады і нікому не патрэбны...

На нейкае імгненне мне ўдалося зазірнуць у вочы Рыгора Кобеца. У мяне захаланула сэрца: мой бацька! Той жа круглы твар, тыя ж вусы, нос, губы, такія ж курыныя лапкі вакол прамяністых вачэй, такая ж пастава...

Маё сэрца і цяпер бударажыць гэтае бацькоўскае падабенства. Такая светлая цеплыня і хатняя утульнасць...

Вось і ўсё. Загадкава і трагічна пакінуў нас Віктар Кірычэнка...

Назаўсёды развіталіся з Алесем Пальчэўскім...

Маўклівай і загадкавай пайшла ў лепшы свет Тамара Цалукідзе...

Я ўжо ніколі не пагляджу ў бацькоўскія вочы Рыгора Кобеца...

Дзякуй табе, Госпадзі, за той адзіны і такі дарагі для мяне свіданак...

Праўда, у мяне была і яшчэ адна сустрэча з Рыгорам Якаўлевічам, але гэта ўжо была сустрэча са святой душой, якая адлятала ў бяссмерце...

# ЖНІВО: "Сярпочкі залатыя– каласы буйныя"

*Пашлі, Божа,*
*многа збожжа!*
*Нарадзі хлеба пры дарозе,*
*Штоб было ўсім гожа.*
*І не пуста на каждым возе!*
*Крыта, крыта!*

Як апісвае наш вядомы фалькларыст П. Шпілеўскі, на Беларусі існаваў абрад пакрывання поля. Заключаўся ён у тым у тым, што зранку, да ўсходу сонца, на поле разам з маладымі дзяўчатамі, выпраўлялася маладая жанчына якая нядаўна выйшла замуж. Яна зжынала толькі адзін снапок жыта, які абмотвала ручніком, або наміткай і падкідала яго ўгору.

Дзяўчаты ў гэты час станавіліся вакол яе ў круг, водзячы вялічальны жніўны карагод, пляскаючы ў далоні, прыгаворваючы:

*- Пакрыла ніўку*
*На добрую спажыўку,*
*Парадзі, Божа,*
*Наша збожжа!*

Жніво-галоўная і адказная справа ў жыцці беларуса-хлебароба, пра гэта сведчыць назва месяца – жнівень. Абрад зажынак пачынаўся часцей усяго ў суботу ці нядзелю.

Да абеду абавязкова пяклі каравай ці круглы бохан хлеба, рыхтавалі месца для новага ўраджаю.

Паводле сведчанняў беларускага этнографа і фалькларыста А. Пшчолкі на пачатку XX стагодзя, перш чым пачаць абедаць, маліліся Богу і спачатку Найсвяцейшай Маці. Пасля абеду галоўная жняя апраналася ў святочны строй брала са стала кавалак каравая, соль, сыр, грамнічную свечку і ішла зажынаць жыта прыгаварваючы:

"Памажы, Божа! Стань мой сноп, на тысячу коп!" "Божа блаславі пачаць жаць і памажы ў добрым здароўі кончыць!"

Першую жменю жняя клала на край нівы, а паверх – хлеб, соль, сыр і іншыя пачастункі з дому:

*Добры дзень Госпаду Богу,*
*Жыту, ядропаму,*
*Хазяіну паляваму!*
*Здароў, жнеі маладыя,*
*Сярпы залатыя!*

Жніўная пара вызначалася самаадданай сялянскай працай і толькі песні жней, што разліваліся па ўсім полі ёмка ўкладаліся ў гэты працоўны рытм. Песня не толькі дапамагала ў нялёгкай жаночай працы, але несла ў сабе магічны пачатак, характэрны гукавы фон. Як сцвярджаецца, гэта адпужвала ад поля злых духаў.

На заканчэнне жніва ў многіх вёсках Беларусі, жнеі дажынаючы жыта пакідалі на полі некалькіх недажатых каласоў – "бараду", "куст", "раёк", так у розных рэгіёнах называюць гэтую дзею. Адзначалі жніўнае свята талакой, віншавалі адзін аднаго, частаваліся, вадзілі карагоды вакол вялікага снапа, абсыпаліся зернем, з вясёлымі скокамі прыказваючы: "Хто ў жніўні гуляе, той узімку галадае". "Жнівень сее, жне і косіць на сталах багацця досыць". "Зярнятка да зярнятка – бохан будзе"!

Жніце, жнеячкі, жніце!

*Мікола Котаў,*
*навуковы супрацоўнік НДЛ*
*Беларускага фальклору*
*БДУ.*

## Святочныя мерапрыемствы ў Лідзе

**Да 10-годдзя ўстаноўкі помніка Францішку Скарыну ў Лідзе Лідская гарадская арганізацыя ГА "ТБМ імя Ф. Скарыны" пры дапамозе Лідскай арганізацый праводзіць наступныя мерапрыемствы:**

**1. 26 ліпеня ў 12.00 - урачысты сход з нагоды 10-годдзя ўстаноўкі помніка ў Гарадскім доме культуры і ўскладанне кветак да помніка.**

**2. 26 ліпеня ў 14.00 - лідская гістарычная канферэнцыя ў Лідскім гістарычна-мастацкім музеі.**

**3. 27 ліпеня ў 11.00 - прэзентацыя кнігі Вольгі Іпатавай "Альгердава дзіда" ў Гарадскім доме культуры.**

**З нагоды 140-х угодка паўстання 1863 года лідскія арганізацыі ГА "БНФ "Адраджэньне", Партыі БНФ і Кансерватыўна-хрысціянскай партыі БНФ пры дапамозе арганізацый ТБМ праводзяць:**

**1. Ускладанне кветак да магілы Валерыі Ціхановіч. 27 ліпеня, 9.00.**

**2. Ускладанне кветак да магілы ксендза Адама Фалькоўскага. 27 ліпеня 10.00.**

**3. Ускладанне кветак да магілы паўстанцаў ва урочышчы "Крыжы". 27 ліпеня, 15.00.**

**4. Святая імша за палеглых у паўстанні. Час і месца можна даведацца ў арганізацыях БНФ і ТБМ.**


**Рэдактар Станіслаў Суднік**

*Заснавальнік:*
ТБМ імя Францішка Скарыны.
*Пасведчанне аб рэгістрацыі:*
№ 83 ад 28 чэрвеня 1996 г.
*Адрас рэдакцыі:*
220005, г. Менск, вул. Румянцава, 13.
*Адрас для паштовых адпраўленняў:*
231300, г. Ліда-2, п/с 7.
*E-mail:* ns@lida1.lingvo.grodno.by
http://tbm.org.by/ns/





*Аўтары цалкам адказныя за падбор і дакладнасць прыведзеных інфармацыі*

Газета надрукавана ў Лідскай друкарні.
231300, г.Ліда, вул. Ленінская, 23.
Газета падпісана да друку 21. 07. 2003 г.
Наклад 1750 асобнікаў. Замова № 1850.
*Падпісны індэкс:* 63865.
*Кошт падпіскі:* 1 мес.- 1030 руб., 3 мес.- 3090руб.
*Кошт у розніцу:* 175 руб. (у Менску - 185 руб.)